



# Рэгіянальная газета. Rh.by

тэлетыдзень

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

1 студзеня 2016 года №01 **(1079)**




# З Новым годам і Калядамі!

## У нумары:



На здымку маладзечанка Лізавета Чуйкевіч. Фота Эвеліны САВЕЛЬЕВАЙ.

● КОНКУРСЫ

# Новыя сябры “РГ” “Укантакце” Ірына Беркутава і Павел Бычкоўскі атрымалі прызы

**Напярэдадні Новага года і Калядаў “РГ” падарыла прыемны падарунак чатырохтысячнаму сябру “Укантакце”. Ім стала паштоўка ручной работы ад мастачкі Алесі Птушкі.**

Адначасова ў сябры да “Рэгіянальнай газеты” пастукаліся два чалавекі: **Ірына Беркутава** і **Павел Бычкоўскі**. Калектыў “РГ” вырашыў падарыць падарункі адначасова двум сябрам.

Мужчына доўга не мог паверыць у тое, што выйграў, падумаў, што гэта розыгрыш. Для Ірыны гэта стала прыемнай навіной.

Паштоўкі ўжо спяшаюцца трапіць у паштовыя скрыні новых сяброў “Рэгіянальнай газеты”.

### “Першая паласа заўсёды цікавая”

Ірына даўно чытае папяровую версію газеты, аднак у яе не заўсёды атрымліваецца сачыць за кожным выпускам. Найперш праглядае ўсю газету, потым выбірае тое, што найбольш зацікавіла.

– Першая паласа – гэта заўсёды цікавыя і нестандартныя матэрыялы, – адзначае жанчына. – Надоўга запомніўся матэрыял пра дзядулю на роліках **Вікенція Налівайку**.

Жанчына хацела б, каб у газеце з’явілася невялікая пастаянная рубрыка, у якой чытачы атрымлівалі б карысныя эканамічныя парады.

– Можна ў кожным нумары ў некалькіх абзацах расказваць, на чым іншыя чытачы эканомяць, як рацыянальна рабіць пакупкі, дзе знайсці лепшыя цэны, як зварыць кашу альбо суп з сякеры і іншыя парады, – раіць чытачка.

“Рэгіянальнай газеце” Ірына пажадала не зніжаць планку, заставацца на вышыні. А калектыву – здароўя і шчасця.

Каб вы бліжэй пазнаёміліся з Ірынай Беркутавай, невялічкае бліц-апытанне.

**– Які ваш жыццёвы дэвіз?**

– Не ведаю, наколькі гэта можна назваць дэвізам, хутчэй гэта вядомае ўсім правіла маральнасці, напісанае ў Евангеллі ад Лукі: “І як хочаце, каб з вамі паступалі людзі, так і вы паступайце з імі”.

**– Што вас натхняе, калі дрэнна?**

– Кнігі пра людзей, якія знаходзяцца ў цяжкім становішчы, але перамагаюць усе цяжкасці. Гэта дорыць веру ў тое, што калі прыкласці намаганні, то ўсё атрымаецца. Выдатны сродак – трэнажорная зала.

**– Чаго чакаеце ад 2016 года?**

– Перамен да лепшага. Часам перамены бываюць добрыя, часам дрэнныя. Але калі чакаць, то якія б перамены ні былі, сустрэць іх лягчэй.

**– Любімы фільм?**

– Вельмі падабаюцца фільмы з залатой калекцыі нашай кінастудыі “Беларусьфільм”: “Прыгоды Бураціна”, “Пра чырвоны капялюшык”, “Казка пра зорнага хлопчыка”. З больш сучасных – “У жніўні 44-га”.

**– Любімы колер?**

– Насычаны блакітны, якім бывае неба ў ясны бязвоблачны дзень.

**– Любімая кніга, твор на беларускай мове?**

– Васіль Быкаў “Альпійская балада”.

**– Любімы від спорту?**

– Мастацкая гімнастыка, плаванне.

**– Любімыя мужчынскае і жаночае імёны?**

– Аляксандр, Марыя (Саша, Маша).

Сачыце за навінамі “РГ”, вас чакае разнастайная інфармацыя, прапановы паўдзельнічаць у конкурсах, а таксама прыемныя прызы.

**Аддзел інфармацыі.**

● НОВЫ ГОД

# Ліст Дзеду Марозу ад трох пакаленняў адной сям’і

МАЛАДЗЕЧНА

**У Новы год усе загадваюць жаданні. Нават тыя, хто кажа вам, што не загадвае. Проста ўсе робяць гэта па-свойму: адны кідаюць паперкі ў келіх з шампанскім, другія чакаюць, пакуль упадзе зорка, трэція проста ціха прамаўляюць жаданне пра сябе.**

Алеся

Мікола

Зоя Іванаўна з Міколам

Аднак для здзяйснення навагодніх жаданняў ёсць той, каму можна наўпрост напісаць ліст са сваімі марамі, просьбамі і падзякамі. Дастаткова на звычайным паштовым канверце напісаць: “Дзеду Марозу” і чакаць, што ліст калі-небудзь трапіць у рукі гэтага зімовага чараўніка.

А можна зрабіць так, як гэта зрабіла сям’я **Зоі Клімовіч** з Маладзечна. Мы папрасілі прадстаўнікоў трох пакаленняў адной сям’і напісаць адкрыты ліст Дзеду Марозу.

Не ведаем, ці чытае Дзед Мароз “Рэгіянальную газету”, але калі раптам чытае, то хай ведае, што нашы чытачы паводзілі сябе ў 2015 годзе добра. І яны заслугоўваюць і вашай увагі, і вашых падарункаў, паважаны Дзед Мароз.

**Наталля ТУР.**

### Ліст Міколы (унука)

Дарагі Дзядуля Мароз, прывітанне!

Мяне завуць Міколка. У мяне ёсць старэйшы брат **Янка**, мама **Алеся** і тата **Уладзіслаў**, бабулі **Зоя** і **Лена**, дзядулі **Толя** і **Лёша**, цёткі **Таня** і **Вераніка**, дзядзькі **Арцём** і тры стрыечныя браты: **Мацвей**, **Максім** і самы малодшы – **Толік**. І яны ўсе – мая сям’я. І я хачу, каб мая сям’я была самая шчаслівая ў свеце.

Дзядуля Мароз, перадай, калі ласка, Санта-Клаусу, каб у маіх родных, што жывуць далёка, усё было добра і каб мы хутчэй сустрэліся.

А для сябе асабіста я хачу папрасіць баскетбольны мяч і красоўкі “AirJordan”, бо я пачаў займацца баскетболам, і мне гэта вельмі падабаецца. Мы будзем гуляць разам з татам на стадыёне, а летам – у вёсцы, на пляцоўцы, якую паабяцаў зрабіць мой дзядуля.

Дзякуй за падарункі, якія ты прыносіў мне летась.

### Ліст Зоі Іванаўны (бабулі)

Галоўнаму чараўніку – Дзеду Марозу. Напярэдадні самага любімага свята.

**Ліст-падзяка**

Калі мне было 5 год, памятаю адчуванне свята… Маленькую ёлачку на зэдліку ў нашай вясковай хаце, кавалачкі ваты на ёй замест снегу, каляровыя пляскатыя цацкі з кардону, ланцужкі і ліхтарыкі, якія мы рабілі самі… І самае галоўнае – гэта карамелькі і ірыскі, якія на нітачках віселі на ёлцы і зняць іх можна было толькі пасля Новага года.

Памятаю твой першы падарунак, Дзядуля Мароз. Гэта быў маленькі гадзіннік на руку, стрэлкі якога не рухаліся, таму што былі проста намаляваныя.

Шакаладныя цукеркі я ўпершыню пакаштавала ў пачатковых класах. А адзін з сімвалаў навагодняга стала, мандарыны, елі ўжо нашы дзеці. Мой муж прастаяў за імі у чарзе ў Зялёным Гарадку дзве гадзіны, і яму засталося толькі паўкілі: роўна шэсць мандарынаў.

Разам з тым ніколі не было адчування, што мы нешта недаатрымалі ці што нас чымсьці абдзялілі. Святочны настрой і эйфарыя шчасця – вось вынік чараўніцтва, звязанага з Новым годам!

Вялікі дзякуй табе, Дзед Мароз, што ты не дарыў нашым дзецям “крутых” падарункаў, а проста дарыў цуд!

Аб чым жа я хачу цяпер папрасіць цябе, Дзед Мароз?

Падзяліся з кожнай сям’ёй, з кожным чалавекам, хто верыць у цябе, майстэрствам здзяйсняць цуды. Са свайго меха даставай і пакідай пад ёлачкай дабрыню, шчодра абсыпай галінкі ўсмешкамі, а на верхавіну ёлкі прымацуй словы з песні: “…Надо, чтоб люди точно знали – Нет оснований для печали

Завтра всё будет лучше,
чем вчера!”

### Ліст Алесі (мамы)

Нарэшце выпаў такі доўгачаканы снег… І, безумоўна, гэта ўзмацніла пачуццё надыходзячага свята. Мне так здаецца, што нават самы суровы чалавек у гэты перадсвяточны час становіцца больш чуллівым і сентыментальным.

Што ўспамінаецца?

Дзіцячы садок. Гурбы снегу значна большыя за мяне. Маленькую, захутаную ў пуховую хустку, бацькі вязуць мяне ў санках. Самыя распаўсюджаныя навагоднія касцюмы на раніШніках: хлопчыкі-“зайчыкі” і дзяўчынкі-“сняжынкі”.

У школе чакаеш, што хутка прывязуць ёлку. І вось звініць званок, выходзіш на перапынак і чуеш такі знаёмы навагодні пах. Дзверы ў актавую залу могуць быць зачыненыя, але разумееш: ёлка ўжо там! Сапраўдная! Пад самую столь!

Пад ёлкай у бабулі і дзядулі вялікі цацачны Дзед Мароз з ваты (вось такі падарунак атрымала б цяпер з вялікім задавальненнем).

Дома даставаліся з шафы каробкі з-пад абутку, у якіх захоўваліся ўпрыгожванні для ёлкі і дожджык. А яшчэ хадзілі з сяброўкамі ў магазін “Дзіцячы свет” і разглядалі ўсялякія прыгожыя ёлачныя цацкі, якія з’яўляліся ў продажы.

Вялікі дзякуй таму Дзеду Марозу і той Снягурачцы, якія штогод не проста прыносілі мне і маім брату і сястры падарункі, а ладзілі для нас захапляльны “квэст” па іх пошуку. Першае – гэта яшчэ не расплюшчыўшы вочы засунуць руку пад падушку. Ёсць! Тады басанож бяжыш да ёлкі ці шукаеш пад ложкам. Зноў нешта знаходзіш! А пасля яшчэ можна паглядзець у рукавах паліто ці футра, у шапцы, у боціках… Разглядзіш свае падарункі, а потым разам з сястрой і братамі: “Што ў каго?”

Дагэтуль, шаноўны Дзед Мароз, я ўдзячная табе за тыя маленькія лыжы “Целеханы” жоўтага колеру, якія я атрымала, калі мне было 8 ці 9 год. І як потым тата вучыў мяне катацца на іх і з’язджаць з горкі на невялікую сажалку Гарадзілаўскага парку.

Калі мы становімся старэйшымі, то, на жаль, трошкі знікае тое “дзіця”, што так ўсхвалявана чакала навагодніх святаў.

Але ведаеш, Дзед Мароз, гэта такое шчасце пражываць тыя свае дзіцячыя пачуцці – толькі ўжо разам са сваімі дзецьмі!

Бачыць, як радуецца і здзіўляецца твой малодшы сын, калі заўважае, што пакінуты ім каля адчыненага акна “Ліст Дзеду Марозу” знік. А потым пытаецца, ці будзеш ты, Дзед Мароз, ведаць, куды несці падарункі, пад якую ёлку, калі ён вырашыў застацца ў навагоднюю ноч у бабулі з дзядулем. Ці як старэйшы, трымаючы свой падарунак, падміргвае нам, бацькам, са словамі: “Дзякуй Дзядулю Марозу!”

Навагоднія святы – гэта чароўны час, і нікога не здзіўляе, што нават незнаёмыя людзі вітаюць адзін аднаго на вуліцы словамі: “З Новым годам!”

Хачу пажадаць і сабе, і ўсім навокал, каб гэтая атмасфера прыязнасці і добразычлівасці захоўвалася паміж людзьмі як мага даўжэй. Каб ветлівыя ўсмешкі не змяняліся на позірк з-пад ілба. Бо гэта так проста і так прыемна: паглядзець у вочы іншаму чалавеку і сказаць: “Прывітанне!” ці “Добры дзень!”

І не толькі ў Новы год!

НАШЫ ГРОШЫ

# Лімоны і перац падаражэлі больш чым напалову

## Як памяняліся цэны на рынку за год

МАЛАДЗЕЧНА

**Кожны тыдзень на працягу года "РГ" друкавала, як змяняліся цэны на прадукты на маладзечанскім рынку райспажыўтаварыства. Час падводзіць вынікі.**

Самымі стабільнымі прадуктамі, цана на якія амаль не змянялася, былі сялянскія. Падаражэла толькі малако. Цана на яго паднімалася аднойчы з 15 да 18 тысяч рублёў.

Цана на мёд паднімалася двойчы: у студзені і ў чэрвені. Кожны раз на пяць тысяч рублёў.

Дзевяць разоў за год даражэў алей. Зімой двойчы, а за лета і пачатак восені яшчэ сем разоў.

Кава за год даражэла двойчы. Спачатку на дзве тысячы рублёў. Пазней яшчэ на 2,5 тысячы рублёў.

Цэны на садавіну і гародніну мяняліся ў залежнасці ад сезона. Самыя танныя яны былі летам і ў верасні, пасля цана паступова расла.

На 30 снежня 2014 года курс долара Нацбанка складаў 11 800.

Галіна СІНІЦА.

### Топ-3 прадуктаў, якія сёлета найбольш патаннелі

**Капуста, 1 кг**
**-27%** (1 500 рублёў)
Было: 5 500
Стала: 4 000

**Куранят-бройлер, 1 кг**
**-7%** (2 100 рублёў)
Было: 28 900
Стала: 26 800

**Хурма, 1 кг**
**-6%** (1 500 рублёў)
Было: 27 000
Стала: 25 500

### Топ-5 прадуктаў, якія сёлета найбольш падаражэлі

**Лімоны, 1 кг**
**+58%** (14 600 рублёў)
Было: 24 900
Стала: 39 500

**Перац, 1 кг**
**+51%** (18 000 рублёў)
Было: 35 000
Стала: 53 000

**Алей "Дзіўны", 1 кг**
**+38%** (6 500 рублёў)
Было: 17 000
Стала: 23 500

**Скумбрыя, 1 кг**
**+30%** (31 000 рублёў)
Было: 104 000
Стала: 135 000

**Грэчка, 1 кг**
**+30%** (4 000 рублёў)
Было: 13 000
Стала: 17 000

### Як змяняліся цэны на іншыя прадукты

| Прадукты | Цана на 30 снежня 2014 года | Цана на 29 снежня 2015 года | На колькі працэнтаў падаражэў (патаннеў) прадукт |
|---|---|---|---|
| Кілбаса "Мядовая", 1 кг | 139 900 | 144 500 ↑ | **3%** (4 500 рублёў) |
| Сасіскі, 1 кг | 54 950 | 53 800 ↓ | **-2%** (-1 150 рублёў) |
| Мінтай свежамарожаны, 1 кг | 36 800 | 39 800 ↑ | **8%** (3 000 рублёў) |
| Селядзец, 1 кг | 36 400 | 45 000 ↑ | **23%** (8 600 рублёў) |
| Рыс, 0,9 кг | 12 600 | 14 000 ↑ | **11%** (1 400 рублёў) |
| Маянэз, 200 г | 6 100 | 5 700 ↓ | **-6%** (-400 рублёў) |
| Соус "Мінскі", 0,5 л | 12 500 | 14 500 ↑ | **16%** (2 000 рублёў) |
| Кава "Neskafe", 100 г | 35000 | 39 500 ↑ | **13%** (4 500 рублёў) |
| Шпроты, бляшанка, 160 г | 12 500 | 14 000 ↑ | **12%** (1 500 рублёў) |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 5 500 | 7 500 ↑ | **36%** (2 000 рублёў) |
| Морква, 1 кг | 5 500 | 6 500 ↑ | **18%** (1 000 рублёў) |
| Буракі, 1 кг | 4 500 | 6 000 ↑ | **33%** (1 500 рублёў) |
| Апельсіны, 1 кг | 17 500 | 22 900 ↑ | **31%** (5 400 рублёў) |
| Мандарыны, 1 кг | 22 500 | 24 900 ↑ | **11%** (2 400 рублёў) |
| Памідоры, 1 кг | 34 000 | 39 900 ↑ | **17%** (5 900 рублёў) |
| Агуркі, 1 кг | 35 000 | 34 900 ↓ | **-0,2%** (-100 рублёў) |
| Вінаград, 1 кг | 25 000 | 29 500 ↑ | **18%** (4 500 рублёў) |
| Бананы, 1 кг | 15 500 | 9 900 ↑ | **28%** (4 400 рублёў) |
| Яблыкі, 1 кг | 10 200 | 11 500 ↑ | **13%** (1 300 рублёў) |
| Малако, 1,5 л | 15 000 | 18 000 ↑ | **20%** (3 000 рублёў) |
| Мёд, 1 л | 50 000 | 60 000 ↑ | **20%** (10 000 рублёў) |

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 24.12 руб. | 30.12 руб. |
|---|---|---|
| Долар ЗША | 18 368,00 | **18 555,00** |
| Еўра | 20 076,00 | **20 347,00** |
| Злоты | 4 734,12 | **4 749,96** |
| Расійскі рубель | 258,57 | **256,05** |
| Грыўня | 790,32 | **771,85** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" у Маладзечне 29.12** | | |
| Еўра | 19950/20150 | **20100/20450** |
| Долар ЗША | 18300/18450 | **18350/18650** |

ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 23.12 (Цана руб.) | 29.12 (Цана руб.) |
|---|---|---|
| Кілбаса "Мядовая", 1 кг | 144 500 | **144 500** |
| Сасіскі, 1 кг | 53 800 | **53 800** |
| Куранят-бройлер, 1 кг | 26 800 | **26 800** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 90 000 | **90 000** |
| Мінтай свежамарожаны, 1 кг | 39 800 | **39 800** |
| Селядзец, 1 кг | 45 000 | **45 000** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 135 000 | **135 000** |
| Рыс, 0,9 кг | 14 000 | **14 000** |
| Грэчка, 0,8 кг | 17 000 | **17 000** |
| Яйкі курыныя, 1 дзясятак | 14 000 | **14 000** |
| Алей "Дзіўны", 1 л | 23 500 | **23 500** |
| Маянэз, 200 г | 5 700 | **5 700** |
| Соус "Мінскі", 0,5 л | 14 500 | **14 500** |
| Кава "Nescafe", 100 г | 39 500 | **39 500** |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 13 500 | **14 000** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 6 900 | **7 500** |
| Часнок, 1 кг | 49 500 | **49 500** |
| Капуста, 1 кг | 4 000 | **4 000** |
| Морква, 1 кг | 5 900 | **6 500** |
| Баклажаны, 1 кг | 75 000 | **67 500** |
| Лімоны, 1 кг | 39 500 | **39 500** |
| Апельсіны, 1 кг | 19 500 | **22 900** |
| Мандарыны, 1 кг | 24 900 | **24 900** |
| Грэйпфруты, 1 кг | 29 900 | **29 900** |
| Ківі, 1 кг | 33 000 | **34 900** |
| Буракі, 1 кг | 6 000 | **6 000** |
| Памідоры, 1 кг | 39 000 | **39 900** |
| Агуркі, 1 кг | 34 000 | **34 900** |
| Перац, 1 кг | 48 000 | **53 000** |
| Вінаград, 1 кг | 25 000 | **29 500** |
| Бананы, 1 кг | 19 500 | **19 900** |
| Хурма, 1 кг | 25 500 | **25 500** |
| Шампіньёны св., 1 кг | 49 000 | **49 000** |
| Яблыкі, 1 кг | 12 500 | **11 500** |
| Грушы, 1 кг (Дзюшэс) | 26 900 | **29 900** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 18 000 | - |
| Масла, 1 кг | 100 000 | - |
| Тварог, 1 кг | 55 000 | - |
| Бульба, 1 кг | 4 000 | **4 500** |
| Сала, 1 кг | 100 000 | **100 000** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 25 000 | - |
| Мёд, 0,5 л | 60 000 | **60 000** |

КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ

## У віляйчаніна знайшлі больш за кілаграм макавай саломкі

ВІЛЕЙКА

**У актавай зале Вілейскага РАУС 9 снежня адбылося адкрытае выязное судовае пасяджэнне.**

Суд Вілейскага раёна разгледзеў крымінальную справу па абвінавачванні 38-гадовага жыхара Вілейкі ў незаконным, без мэты збыту, набыцці і захоўванні наркатычных сродкаў. Раней яго судзілі за аналагічнае злачынства.

Мужчына 28 ліпеня гэтага года каля чатырох гадзін раніцы на пустцы ў Вілейскім раёне назбіраў сцяблін з верхавіннай часткай і лісцем маку. Паклаў у пакет і захоўваў пры сабе.

Пасля чаго ў пакеце перанёс на ўчастак паблізу свайго дома. Дзе ля паловы пятай ранку яго затрымалі супрацоўнікі міліцыі і даставілі ў будынак РАУС.

Пры асабістым вобыску пры ім выявілі і канфіскавалі небяспечны наркатычны сродак – макавую саломку. Маса нявысушанай саломкі склала адзін кілаграм 134 грамы.

Дапытаны ў судовым пасяджэнні мужчына вінаватым сябе прызнаў цалкам, у зробленым раскаяўся.

Суд прысудзіў прызнаць яго вінаватым у незаконным, без мэты збыту, набыцці і захоўванні наркатычных сродкаў, прызначыў пакаранне ў выглядзе пазбаўлення волі на тэрмін два гады ў папраўчай калоніі ва ўмовах агульнага рэжыму. Таксама прысудзіў прымяніць да яго прымусовае лячэнне ад наркаманіі.

Прысуд уступіў у законную сілу, абскарджаны і апратэставаны не быў.

**Таццяна ТКАЧОВА, вядучы спецыяліст суда Вілейскага раёна.**

## Знайшлі, хто абакраў лецішча

ВІЛЕЙКА

**У "Рэгіянальнай газеце" паведамлялі пра крадзеж у вёсцы Гарыдавічы Куранецкага сельсавета.**

Там у адзін са снежаньскіх дзён адарвалі дошкі на франтоне даху хлява і скралі бензапілу і бензатрымер.

Падазраванага ў злачынстве ўстанавілі. Гэта раней неаднаразова судзімы 29-гадовы жыхар Куранца.

Толькі ў лістападзе быў суд, і мужчына атрымаў пакаранне, не звязанае з пазбаўленнем волі. Але на працу не ўладкаваўся і прыняўся за старое, расказаў начальнік аддзялення крымінальнага вышуку Вілейскага РАУС **Дзмітры Антановіч.**

На лецішча наведаўся два разы. Адразу прыхапіў бензапілу, у другі раз – бензатрымер. Збываў рэчы танна.

Пасля праверкі ў адносінах да мужчыны ўзбудзілі яшчэ адну крымінальную справу – за крадзеж бензатрымера ў вёсцы Куранец.

**Аддзел інфармацыі.**

СЛУЖБА 101

## На Мядзельшчыне гарэў дом – гаспадар быў на працы

МЯДЗЕЛ

**Паведамленне пра загаранне жылога дома ў вёсцы Брэскія Нарацкага сельсавета паступіла пасля пяці гадзін вечара 27 снежня.**

Суседзі пачулі трэск шыферу, выйшлі на двор і ўбачылі, што гарыць дом.

Па прыбыцці выратавальнікаў дом гарэў адкрытым полымем.

Дома нікога не было – гаспадар якраз быў на працы. У выніку знішчаны дах дома, выгаралі ўнутры ўсе памяшканні, расказаў інспектар нагляду і прафілактыкі райаддзела па надзвычайных сітуацыях **Ігар Балаш.**

Прычына пажару ўстанаўліваецца.

**Аддзел інфармацыі.**

ПАРАДЫ

# Не прабівайце многа лунак, не правярайце лёд нагой

## Парады, якія выратуюць жыццё на лёдзе

МАЛАДЗЕЧНА

**Штогод зімой пры лоўлі рыбы ў краіне памірае 80-90 чалавек, большасць выпадкаў, да 80%, у стане алкагольнага ап'янення.**

Каб зберагчы жыццё, нагадваем правілы паводзінаў на лёдзе:

1. Перш чым сысці з берага, праверце трываласць лёду палкай, а не ўдарамі нагі. Выходзьце на лёд у неглыбокіх месцах.

Надзейны лёд – празрысты, з зеленаватым адценнем, таўшчынёй не менш за сем сантыметраў. Лёд малочнага або белага колеру ўдвая слабейшы. Самы небяспечны лёд – з зазубрынамі, утвораны са снегу, які змёрзся.

2. Будзьце асцярожныя ў месцах, пакрытых тоўстым слоем снегу, у месцах хуткага цячэння і выхаду крыніц, каля кустоў, травы, у месцах скідвання вады прамысловымі прадпрыемствамі. Будзьце асаблíва асцярожныя пры пераходзе ракі ніжэй плаціны. Там стан лёду вельмі хутка мяняецца, часам праз дзве-тры гадзіны немагчыма вярнуцца па сваім следзе.

3. Не выходзьце на лёд у адлігу.

4. Калі вам неабходна перайсці небяспечнае месца, абвяжыцеся шнуром, пакінуўшы за сабой канец, на якім павінны знаходзіцца іншы чалавек. Пераходзьце небяспечнае месца з вялікім шастом, трымайце яго ўпоперак цела.

6. Калі вы не ведаеце асаблівасцяў вадаёму альбо ўмоў утварэння лёду, не выязджайце на яго на машыне.

7. Першы лёд вельмі слізкі, таму можна зваліцца і атрымаць траўмы рознай ступені цяжкасці. Калі абутак слізкі, перасоўвайцеся дробнымі крокамі, па магчымасці не адрывайце ног ад паверхні лёду. Трымайцеся ўчасткаў, прыпарушаных снегам – гэта змяншыць слізгаценне.

8. Нажы ледабура пакладзіце ў чахол. Пасля таго, як прабурылі лункі, не кідайце ледабур на лёд, засвідруйце яго ў вертыкальным становішчы.

9. Калі вы пераходзіце лёд на лыжах, адшпіліце мацаванні, зніміце петлі з рук з палак, заплечнік трымайце на адным плячы.

10. Не прабівайце многа лунак на блізкай адлегласці. Яны не павінны знаходзіцца адна ад адной бліжэй за пяцьшэсць метраў. Калі скончылі рыбалку, абазначце лункі заўважнымі вешкамі.

11. Вазьміце выратавальныя сродкі: лінь даўжынёй 15-20 метраў з пятлёй на адным канцы, выратавальную камізэльку альбо нагруднік.



Фота sk.su.

Каб не атрымаць траўмы на лёдзе, варта памятаць некаторыя парады.

### Калі вы праваліліся пад лёд

Шырока раскіньце рукі ў бакі па краях лёду, старайцеся не абломваць іх. Без рэзкіх рухаў паспрабуйце выбрацца на трывалы лёд. Спачатку запаўзайце грудзьмі, старайцеся закінуць ногі. Адпаўзайце ад небяспечнага месца і адначасова клічце на дапамогу.

Калі ў вас ёсць нож або іншыя вострыя прадметы, старайцеся зачапіцца імі далей ад месца правалу. Асцярожна закідвайце адну нагу на лёд і перакочвайцеся на спіну, выбіраючыся з палонкі.

**Без сур'ёзных наступстваў для здароўя чалавек можа вытрываць у ледзяной вадзе да пяці-сямі хвілін.**

### Калі вы дапамагаеце пацярпеламу

Набліжайцеся да яго паўзком, абапірайцеся на дошку, лыжы альбо жэрдку. Калі вы дасягнулі дастатковай адлегласці, кіньце пацярпеламу канец вяроўкі. Драўляныя прадметы: жэрдку, дошку, лыжы піхайце па лёдзе да месца пралому. Не падпаўзайце да краю палонкі, інакш можаце самі аказацца ў вадзе.

З пацярпелага зніміце адзенне. Калі няма сухога, выкруціце тое, што знялі, пасля надзеньце. Чалавека, якога выцягнулі з вады, абгарніце поліэтыленам, ад гэтага становіцца цяплей.

Чалавек, які трапіў у ледзяную ваду, можа задубець праз 10-15 хвілін, а праз 20 згубіць прытомнасць.

**Аляксандр СЕМАШКЕВІЧ, кіраўнік раённай арганізацыі таварыства выратавання на водах.**

ВЫШУК

## Дапамажыце адшукаць зніклую

ВІЛЕЙКА

**Вілейскі РАУС УУС Мінаблвыканкама шукае зніклую без вестак Марыю Юр'еўну Козел.**

63-гадовая жанчына нарадзілася 6 кастрычніка 1952 года ў вёсцы Юхавічы на Маладзечаншчыне. Жыла на Вілейшчыне ў вёсцы Малявічы па вуліцы Савецкай, 63.

10 ліпеня 2015 года каля 6:30 яна сышла з дому ў лес непадалёк і не вярнулася.

Калі вам штосьці вядома пра месцазнаходжанне зніклай, паведаміце пра гэта ў Маладзечанскі РАУС па тэлефонах: **8-0176-74-96-83**, **8-0176-77-03-12**, **8-0176-77-16-56** альбо ў бліжэйшы аддзел міліцыі па нумары **102**.

**Па інфармацыі Маладзечанскага РАУС.**



ЗДАРЭННІ

## У Ашмянскім раёне скралі клетку з норкамі

АШМЯНЫ

**Не зусім звычайны крадзеж адбыўся ў Ашмянскім раёне ў ноч на Каляды.**

Кіроўца грузавіка ноччу спыніўся на запраўцы ля мяжы з Літвой, каб адпачыць перад дарогай. Машыну ён не закрываў.

У паўпрычэпе мужчына перавозіў звяроў, а менавіта клеткі з норкамі. Калі мужчына заснуў, да яго машыны пад'ехаў другі аўтамабіль. Яго кіроўца забраў з паўпрычэпа адну клетку, у якой знаходзіліся пяць звяркоў. Гэта зафіксавала камера відэаназірання.

Норкі належалі расійскай фірме і каштавалі каля чатырох мільёнаў рублёў. Кіроўца вёз іх з Калінінграда ў Санкт-Пецярбург. На дадзены момант міліцыя ўстанаўлівае асобы зламыснікаў.

Пра здарэнне расказаў начальнік Ашмянскага следчага камітэта **Віктар Дамуць.**

**Наталля ТУР.**



Фота Настассі РОЎДЫ.

У інтэрнаце падчас рэпетыцыі навагодняй казкі “Чароўная сіла”. Злева направа: Іван Гамолка, Павел Кіслы, Максім Каробчыц, Карына Кузіна, Насця Мазалеўская.



Фота Настассі РОЎДЫ.

Таццяна Чалава (злева) і Надзея Яцухна.



Фота Настассі РОЎДЫ.

Іван Гамолка і Карына Кузіна.

● ІНІЦЫЯТЫВА

# Для дзяцей з інтэрнатаў стварылі гульнявыя пакоі

МАЛАДЗЕЧНА

**Адзін з іх запрацаваў у Маладзечне, яшчэ два – у Пінску і Жодзіне. Чацверты плануюць хутка адкрыць у Беразіне.**

Усё дзякуючы групе творчых педагогаў з Маладзечна, Мінска, Пінска і Жодзіна, якія прапанавалі праект “Калідорныя дзеці” на грант у галандскі фонд МАТРА.

– З іншымі педагогамі, якія ўдзельнічаюць у гэтым праекце, мы супрацоўнічаем ужо вельмі даўно, – кажа намесніца дырэктара па выхаваўчай рабоце маладзечанскай СШ №5 **Алена Парахня**. – Наш цяперашні праект “Калідорныя дзеці” мусіць прыцягнуць увагу да ўмоў, у якіх растуць дзеці, што жывуць у інтэрнатах. Асноўнае месца, дзе яны гуляюць, – калідоры. Іншых месцаў для гульняў звычайна няма, і мы хацелі стварыць такія пляцоўкі.

У Маладзечне гульнявы пакой месціцца ў інтэрнаце па адрасе: Замкавая, 21. Раней гэта была фехтавальная зала, цяпер тут акрамя яе працуюць тэатральныя гурткі і клуб маладых адкрывальнікаў. Падчас працы гурткоў дзеці з інтэрнатаў могуць сюды прыходзіць і бавіць свой вольны час.

– Першапачаткова мы хацелі, каб доступ да гэтага пакоя быў увесь час свабодны. Аднак патрэбнага памяшкання ўнутры інтэрната не знайшлося, дамовіліся спалучыць з ім фехтавальную залу. А ўваход у яе – з вуліцы, таму пакой даводзіцца зачыняць, – тлумачыць Алена Парахня. – Выдатна, што ў дзяцей з бліжэйшых інтэрнатаў з’явілася магчымасць наведваць гурткі непадалёк ад дома. Так нашмат прасцей бацькам, якім не трэба ламаць галаву, куды аддаць дзіця.

**Дзякуючы праекту ў пакоі з’явілася раскладная мэбля, жалюзі, розныя гульнявыя зоны.**

### “Найбольш люблю гуляць у тэатр”

У гульнявым пакоі інтэрната займаюцца дзве групы тэатральнай студыі “Казка” маладзечанскага цэнтра творчасці дзяцей і моладзі “Маладзік”. Агулам 30 чалавек: па 15 у кожнай групе. Наведваюць гурткі вучні СШ №1, СШ №4, СШ №5.

Напярэдадні святаў у інтэрнаце актыўна ішлі рэпетыцыі навагодняй казкі “Чароўная сіла” Ганны Багачовай.

– Займаемся тут ад верасня, і “Чароўная сіла” – другі спектакль, які мы ставім. Асноўны пасыл пастаноўкі ў тым, што галоўная сіла не ў посаху, а ў любові. Любоў робіць цуды, – распавядае кіраўнік студыі **Галіна Іванькіна**. – Адны дзеці ўпершыню ўдзельнічаюць у пастаноўцы, іншыя – другі раз.

**Насця Мазалеўская**, якая жыве непадалёк ад гэтага інтэрната, займаецца ў групе два тыдні і ўжо атрымала сур’ёзную ролю – Снежнай бабы.

– Тут вельмі цікава, тут весела. І гэта непадалёк ад дома, – кажа Насця.

– Больш за ўсё люблю гуляць у тэатр, – кажа **Надзея Яцухна**, якая ў навагоднім спектаклі будзе выконваць ролю Яхідны, галоўнай ведзьмы. – Гэта мая другая роля. Раней іграла Каралеву ў “Мушкецёрах”.

Галіна Іванькіна заўважае, што яна імкнецца падтрымаць сваіх акцёраў і дапамагчы арганізаваць іх вольны час. Яе цешыць, што, нягледзячы на загрузку ў школе, дзеці паспяваюць прыходзіць і да яе на заняткі.

**Настасся РОЎДА.**

● СВЯТЫ

## Хто перамог з Дзядоў Марозаў у Вілейцы

ВІЛЕЙКА

На цэнтральнай плошчы горада 27 снежня прайшло навагодняе свята “У гасцях у Дзеда Мароза”.

У ім прынялі ўдзел пяць камандаў.

Адбылося шэсце Дзядоў Марозаў са світай.

Каманды сустракалі гасцей у рэзідэнцыях Дзядоў Марозаў, частавалі дзяцей, падрыхтавалі арыгінальныя праграмы.

Перамагла ў конкурсе каманда “Зеніт-БелОМА”.

– Яе ўдзельнікі ўмела працавалі з дзецьмі і дарослымі, творча віншавалі са святам, падрыхтавалі шчодрыя пачастункі. І ўсе каманды стараліся выступіць як мага лепш, – кажа намеснік дырэктара Вілейскага Палаца культуры **Вольга Шляпо**.

На другім месцы – каманда Цэнтра эстэтычнага выхавання, на трэцім – Вілейскай ЖКГ.

У намінацыі “Лепшае афармленне рэзідэнцыі” адзначылі Вілейскую раённую цэнтральную бібліятэку імя Ганны Новік.

За лепшыя навагоднія касцюмы і вобразнае рашэнне праграмы ўзнагародзілі каманду Вілейскага дзяржаўнага каледжа. Прыз сімпатый гледачоў падзялілі “Зеніт-БелОМА” і ЖКГ.

**Аддзел інфармацыі.**

● ТРАНСПАРТ

## Калі электрыфікуюць участак чыгункі ад Маладзечна да дзяржмяжы

МАЛАДЗЕЧНА, СМАРГОНЬ, АСТРАВЕЦ

18 снежня падпісаны указ “Аб некаторых пытаннях электрыфікацыі ўчастка чыгункі”.

Дакумент вызначае тэрміны рэалізацыі інвестпраекта “Электрыфікацыя напрамку Маладзечна – Гудагай – дзяржмяжа”: 2015 – 2017 гады. Заказчыкам вызначаная Беларуская чыгунка (БЧ), генпадрадчыкам па будаўніцтве – кітайская кампанія па экспарце і імпарце абсталявання (CUEC).

Электрыфікацыю ўчастка БЧ пачала ў канцы верасня. Начальнік БЧ **Уладзімір Марозаў** тады адзначаў, што “электрыфікацыя дазволіць стварыць магутны і тэхналагічны транспартна-лагістычны комплекс для транзіту грузапатокаў з поўначы на поўдзень, усходу на захад”.

Пасля электрыфікацыі час у дарозе паміж Мінскам і Вільняй скароціцца да дзвюх гадзін.

**Паводле БелаПАН.**


Фота Аляксандра МАНЦЭВІЧА.

Злева направа: Барыс Манцэвіч, прафесар Аляксандр Смолік і дырэктар Вілейскага краязнаўчага музея Сяргей Ганчар на свяце вёскі Каловічы, чэрвень 2015 года.

ПАЭЗІЯ

## У Вілейцы прэзентавалі зборнік вершаў Барыса Манцэвіча

ВІЛЕЙКА

**Нядаўна намаганнямі раённай цэнтральнай бібліятэкі імя Ганны Новік выйшаў першы зборнік вершаў віляйчаніна Барыса Манцэвіча "Эстафета". У ім сабраныя вершы разнастайныя: пра вайну, каханне і сям'ю, любоў да Вілейкі і Беларусі...**

А 24 снежня адбылася прэзентацыя кнігі. У чытальнай зале бібліятэкі сабраліся супрацоўнікі, удзельнікі літаратурнай гасцёўні "Дамінанта душы" і іншыя аматары паэзіі.

Найперш пазнаёміліз героем урачыстасці і зборнікам вершаў. Барыс Флоравіч расказаў пра жыццёвы і творчы шлях, прачытаў вершы. Працягнулі знаёмства з яго творчасцю бібліятэкары і госці мерапрыемства.

У гэты дзень гучалі не толькі вершы паэта. **Клаўдзія Дубовік** прысвяціла аўтару зборніка свой верш.

Цёпла і душэўна расказвалі пра Барыса Манцэвіча **Антаніна Гарчакова**, **Галіна Капцюг**, **Вольга Коласава**, **Таццяна Захарыч** і іншыя.

Паэт **Уладзімір Цанунін** падарыў герою ўрачыстасці свой зборнік вершаў і разам з **Таццянай Захарыч** праспяваў песню ў яго гонар.

Зборнік "Эстафета" ў падарунак ад аўтара і з яго аўтографам атрымалі на памяць многія ўдзельнікі.

– Сустрэча атрымалася вельмі цёплая і прайшла на адным дыханні, – кажа загадчыца аддзела абслугоўвання і інфармацыі бібліятэкі **Людміла Тонкавіч**. – Асабліва ўразіла выступленне Барыса Флоравіча: як ён шчыра і душэўна расказваў пра сваю сям'ю, Радзіму, родную беларускую мову. Недарэмна па заканчэнні мерапрыемства ўдзельнікі казалі шмат цёплых слоў і аўтару, і бібліятэцы.

Алесь ВЫСОЦКІ.

**Даведка "РГ".** Барыс Манцэвіч нарадзіўся ў 1933 годзе ў сям'і сельскіх настаўнікаў на Мёршчыне. Пасля заканчэння аддзялення журналістыкі філфака БДУ ў 1957 годзе працаваў на розных журналісцкіх пасадах у вілейскай і бярэзінскай раённых газетах. Жыве ў Вілейцы.

*А я жыць сваёй роднаю моваЙ хачу,*
*Той, што дадзена мне ад прыроды,*
*Я хачу, каб усюды не змог пачуць*
*Як дзяржаўную мову народа.*
*Дык давайце за мову змагацца заўжды*
*Пры найсамай ліхой сітуацыі.*
*Знікне мова – не будзе тады*
*Ніякой беларускае нацыі.*

З верша "Мова продкаў маіх", 2003 год.

ПА КРАІНАХ І КАНТЫНЕНТАХ З ЛЫЖКАЙ

# У бібліятэцы вучыліся святкаваць Новы год па-французску

МАЛАДЗЕЧНА

**Работнікі залы літаратуры на замежных мовах маладзечанскай раённай бібліятэкі 22 снежня правялі інфармацыйна-пазнавальную гадзіну.**

Яна адбылася ў межах сумеснага праекта "РГ" і бібліятэкі імя Багдановіча "Падарожжа па краінах з лыжкай" для вучняў гімназіі №3 і школ №4 і №11.

Запрошанымі гасцямі сталі першы дарадца па супрацоўніцтве і культуры пасольства Францыі ў Беларусі **Эльза Піньёль**, аташэ па супрацоўніцтве ў галіне французскай мовы **Клэр Эліз Юбер** і дырэктарка французскай медыятэкі **Марына Завадская**.

Яны даведаліся пра гісторыю, традыцыі Каляд у Францыі, вывучылі калядную песню. Усе ўдзельнікі прадэгуставалі галоўны французскі торт "Каляднае палена" і каралеўскую галету, якую ядуць у дзень Эпітафіі 6 студзеня.

Гэтае свята яшчэ называюць Богаяўленнем, ці Днём трох каралёў, і яно завяршае цыкл зімовых урачыстасцяў.

Удзельнікі свята ў бібліятэцы таксама правялі французскі абрад. У галеце быў схаваны боб, і той, хто атрымаў кавалак з ім, выбіраў сабе караля ці каралеву.

А госці прывезлі з сабой каляднае пячэнне, якое спяклі самі, каб пачаставаць маладзечанцаў.


Фота забяспечана Маладзечанскай ЦРБ.

Запрошанымі гасцямі былі Эльза Піньёль, Клэр Эліз Юбер і Марына Завадская.

### Навагодняя традыцыі ў Францыі

Новы год, 31 снежня, праходзіць пад назвай дня святога Сільвестра.

Французскі Дзед Мароз Пер Ноэль прыносіць добрым і паслухмяным дзецям падарункі і цукеркі. Іх ён кладзе ў абутак, які дзеці загадзя пакідаюць перад камінам.

Кампаньён Пера Ноэля – Пер Фуэтар. Гэта дзед з бізунамі, які нагадвае Перу Ноэлю, як дзіця паводзіла сябе цягам года і чаго больш заслугоўвае – падарункаў ці лупцавання.

На Новы год французы накрываюць шыкоўны святочны стол, на які падаюць традыцыйныя стравы: крывяныя кілбасы, запечаную індычку, гуся і галаву свінні з бобам, гарохам, каштанамі, фасоляй ці сачавіцай.

На салодкае пякуць пірог "галета" з адным бобам. Хто яго знойдзе, становіцца "бабовым каралём", якога ўсе павінны слухацца.

Французы ўпрыгожваюць дом не толькі ёлкай і галінкай амялы, але і кветкамі. Іх расстаўляюць па ўсім доме, і абавязкова на стол.

Любімая навагодняя забава – латарэя.

**Паводле традыцыі, добры гаспадар-вінароб у навагоднюю ноч павінны чокнуцца з бочачкай віна, павіншаваць яе і выпіць за будучы ўраджай.**

У Францыі існуе традыцыя, якая бярэ пачатак ад 12 стагоддзя. Напярэдадні Калядаў усёй сям'ёй у двары майстравалі са свежых дроў каляднае палена Буш дзё Ноэль. Яго ўрачыста заносілі ў дом, дзе гаспадар паліваў алеем і падагрэтым вінам, а ўся сям'я чытала малітвы. Маленькія дзяўчынкі падпальвалі палена лучынкамі, якія засталіся з мінулага года. Попел і лучынкі, якія заставаліся ад спальвання, захоўвалі цягам года, каб яны засцерагалі дом ад маланак і зла.

Паступова гэта традыцыя адмірала, але некаторыя сем'і трымаюцца яе і сёння. У выглядзе святочнага палена французы ўпрыгожваюць стравы. Адна з самых папулярных – каляднае шакаладнае палена.

Аддзел інфармацыі.

## Рэцэпт французскага каляднага шакаладнага палена


Фота pixelfun.com.

Парадуйце блізкіх французскім дэсертам у першыя дні новага года.

**Інгрэдыенты:**

Шэсць яек з адной шклянкай цукру расцерці на вадзяной лазні, а пасля ўзбіць да белага колеру. Дадаць адну шклянку мукі спачатку ў палову сумесі, а пасля злучыць усё. Дадаць 50 грамаў масла. Пакласці на бляху пергаментную паперу, змазаную маслам, на яе выкласці бісквіт.

Пры разагрэтай да 180 градусаў духоўцы бісквіт будзе гатовы праз 15 хвілін.

Выкласці яго на ручнік, зняць паперу. Скруціць у рулет у ручніку і пакінуць астываць.

### Гатуем крэм

Тры бялкі ўзбіць на паравой лазні да белага колеру, дадаць тры чвэрці цукру, зняць яшчэ не гарачыя і працягваць узбіваць. Дадаваць масла невялікімі кавалкамі і ўзбіваць. Дадаць крыху ванільнага экстракту, калі ёсць. Астудзіць.

Калі ўсё астыне, раскруціць бісквіт, змазаць крэмам і зноў скруціць, але ўжо без ручніка.

### Гатуем памадку

200 грамаў цёмнага шакаладу распусціць з 150 грамамі тлустых вяршкоў. Астудзіць.

Па касой адрэзаць крыху рулета і пакласці збоку, як галінку. Пакрыць памадкай.

Тыльным бокам відэльца правесці палоскі, як на палене. Упрыгожыць молатымі арэшкамі і пасыпаць цукровай пудрай, нібы палена пакрыў сняжок. Паставіць у халадзільнік, каб рулет зацвярдзеў.



# ТРАНСПАРТ

## ПРАДАЕЦЦА

- Опель-Кадэт, 1990 г.в, 1,4 добры стан, 18 000 000 руб. Т. (8-029) 1637202.
- Форд-Фіеста, 1991 г.в., парогі замененыя, пафарбаваны, усё працуе, ТА, без праблем і нядорага. Т. (8-029) 5759587.
- Форд-Мандэа, 1996 г.в, 2,5Б, АКПП, 24 000 000 руб, торг. Т. (8-029) 5691813, (8-044) 5691813.
- Хундай-Элантра, 2000 г.в, 1,6 бензін, хэтчбэк, серабрысты металік, АКПП, клімат-кантроль, добры стан. Т. (8-029) 5771112.
- **ЗАПЧАСТКІ Б/У ДА А/М:** Сітраэн-Ксара, Джампер, Пікаса, Эвазьён, С3, С5, С8; Опель-Астра, Вектра, Зафіра, Амега-В; Пежо-206, 306, 307, 406, 407, 607, 806, 807, Боксер, Эксперт; Фіят-Уліс, Скунда, Пунта, Дуката; Форд-Транзіт; Таёта-Пікнік, Авенсіс, Авенсіс-Версa; Фольксваген-Цыгуан, Транспарцёр, Т4, Каравела, Крафтар, Пасат-В5, LT28; Рэно-Меган, Сцэнік, Эспэйс, Лагуна-2, Максіці, Маскот, Кангу; Міцубісі-Паджэра-3; Мерседэс-207-410, Віта, Спрынтар; Лянча-Зета, Кіа-Карневал; СААБ 9-5; Нісан-Альмера-Ціна, Кабстар; Івека-Турба-Дэйлі 35.10-59.12 ТАА "МолАўтаСтоп" УНП 690617006. Т. (8-029) 7721520, (8-029) 6015258.*
- **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО;** крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак і іншых частак кузава, а таксама глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага. ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, 707810.*

## КУПЛЮ

- **АЎТАМАБІЛЬ** у любым стане, хутка. Т. (8-029) 1261119, (8-029) 8714747.*
- Аўтамабіль у любым стане, можна мікраўтобус. Т. (8-029) 5524004.*
- Аўто для сябе. Тэрмінова. Т. (8-029) 6510099.*
- Любое аўто на хаду. Грошы адразу. Т. (8-029) 7918210.*

## ПАСЛУГІ

- **МІНІ-ЭКСКАВАТАР**: усе віды земляных работ. ІП Жак А.А., УНП 691515498. Т. (8-044) 5522028.*
- Паслугі экскаватара ЕК-14 (0,85 куб.м) і франтальнага пагрузчыка ТО-18Б. Дастаўка ўласным тралам. ІП Вабішчэвіч І.В. УНП 690696017. Т. Вэлком (8-029) 3713335, МТС (8-033) 3133535.*

| Тэлефонныя коды | гарадоў рэгіёну: |
|---|---|
| Астравец | -01591, |
| Ашмяны | -01593, |
| Валожын | -01772, |
| Вілейка | -01771, |
| Маладзечна | -0176, |
| Мядзел | -01797, |
| Смаргонь | -01592. |



# НЕРУХОМАСЦЬ

## ПРАДАЕЦЦА

- 1-пакаёвая кватэра ў цэнтры Вілейкі ці абмен на 2-пакаёвую. Т. (8-029) 5679021.
- 2-пакаёвая кватэра ў Маладзечне па вул. Маладзёжнай, 40 кв. м, балкон. Т. (8-029) 3428914, (8-029) 3553883.
- 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы па вул. Незалежнасці, 70,1 кв.м, часткова з мэбляй. Т. (8-029) 1281771.*
- 3-пакаёвая кватэра ў Маладзечне па вул. Замкавай, 66 кв.м, 1 паверх. Т. (8-029) 6888111, (8-029) 3555444.*
- Дом у в. Любань. Т. МТС (8-033) 6026288.*
- Дом у Маладзечне. Т. МТС (8-029) 2608541.*

## КУПЛЮ

- Дом у Вілейцы. Т. (8-029) 5690706.*



# ПАСЛУГІ

## ДЛЯ МАЛАДЫХ

- Вяселлі. Юбілеі. Навагоднія карпаратывы. Т. (8-029) 6188716.*
- Вясёлы тамада, жывая музыка, разумныя цэны.Т. (8-025) 5144071.*

## ФОТА-, ВІДЭАЗДЫМКА

- АМ-Відэа. Відэаздымка і мантаж вясельных фільмаў, карпаратываў, мерапрыемстваў. Якасць НД. ІП Малько А.Г. УНП 691291314. Т. Вэлком (8-029) 8745891.*

## ГРУЗАПЕРАВОЗКІ

- Бус 1,5 тон, нядорага. ПУП "Дойлід-С" УНП 600077312. Т. (8-029) 1921299.*
- **ГРУЗАПЕРАВОЗКІ** да 3 тон, горад, РБ, мэблевы фургон. ІП Радзівановіч А.А. УНП 691890548. Т. (8-029) 5064233.*
- Мерседэс 412, 2,5 т, паслугі грузчыка. Без выхадных. ІП Габрыновіч А.В. УНП 691885058. Т. (8-029) 7015520.*

## ІНШЫЯ ПАСЛУГІ

- Аднаўленне бухгалтарскага ўліку ІП, ПУП, ТАА, ТДА. Кансультацыя па вядзенні, 1С, аднаўленні, падаткаабкладанні, ліквідацыі (баланс), адкрыцці, рэарганізацыі. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*
- **АРГОНАВАЯ ЗВАРКА, ЗВАРАЧНЫЯ РАБОТЫ,** парогі, аркі, днішчы, аланжэроны, глушыцелі і інш. **АНТЫКАРАЗІЙНАЯ АПРАЦОЎКА DINITROL.** Замена ланцугоў, рамонт падвескі. **ФАРБАВАЛЬНЫЯ РАБОТЫ.** ІП Блоцкі Д.Г. УНП 691395713. Т. (8-029) 3239999, (8-033) 3239999.*
- **ВЫРАБ ЯКАСНЫХ ЧАХЛОЎ** любой складанасці, пашыў аўтамабільных салонаў, тэнтаў для лодак і катараў. ІП Мацко А.А. УНП 691514463. Т. Вэлком (8-029) 6932184.*
- Дах, заліўка фундаментаў, вагонка, блок-хаўс, кладка, аддзелка лазняў, гіпсакардон, ламінат. Наяўны/Безнаяўны. Замер, дастаўка матэрыялу. Па РБ. ІП Лубочка А.А. УНП 691402568. Т. (8-029) 6096013, (8-029) 2281074.*
- **ДЫПЛОМНЫЯ, КУРСАВЫЯ, СПРАВАЗДАЧЫ ПА ПРАКТЫЦЫ.** Правa, справаводства, архівазнаўства, ідэалогія, паліталогія і інш. гуманітарныя дысцыпліны дапамажа напісаць кандыдат навук. E-mail: 6661741@mail.ru. ІП Крывіцкі Л.В. УНП 190609577. Т. (8-029) 6661741 (з 14-00 да 17-00 або з 22-00 да 24-00, штодзённа).*
- Мантаж, дэмантаж даху, кроквенная сістэма. Аддзелка дамоў, франтонаў сайдынгам. Кладка блокаў. Сцяжка падлогі, ламінат. Наяўны і безнаяўны разлік. ІП Бажко А.В. УНП 691888639. Т. (8-029) 6943243, (8-033) 3013300.*
- Печніка. Любое ацяпленне. ІП Ціхановіч А.С. УНП 191091444. Т. (8-029) 2599940, www.940.by.*
- Рамонт камп'ютараў і ноўтбукаў у Маладзечне па вул. Б. Хмяльніцкага,36. Наяўны і безнаяўны разлік. www.mivcomputevov.dy ІП Тачылаў А.Н. УНП 691290239. Т. (8-029) 5754003, (8-029) 1559223, (8-0176) 551702.*
- Рамонт ноўтбукаў і камп'ютараў. Выезд па Маладзечне і р-не. ІП Сасноўская Н.Б. УНП 691881741. Т. (8-029) 3977734.*
- Рамонт халадзільнікаў, маразільнікаў. ІП Шапавал Г.В. УНП 690688393. Т. у Маладзечне 733177, (8-029) 3395974.*
- **РАМОНТ ТЭЛЕВІЗАРАЎ ДОМА.** Гарантыя. ІП Зелянко В.М. УНП 690040614. Т. МТС (8-029) 2710273, Вэлком (8-044) 5559347.
- **СПІЛУЕМ ДРЭВА ЛЮБОЙ СКЛАДАНАСЦІ.** ІП Былінскі В.М. УНП 690475812. Т. (8-029) 5755757, (8-029) 3493379.*
- Усе віды дахавых работ, фундамент, кладка, абшыўка дамоў сайдынгам, блок-хаўсам, вагонкай, падшыўка, вадасцёчка. Наяўны, безнаяўны разлік. ІП Клімовіч С.В. УНП 691296995. Т. (8-029) 3297170, (8-033) 3350723, (8-025) 9555719.*
- Фундамент, кладка, дах, зруб. ІП Яновіч Ч.А. УНП 690163826. Т. (8-029) 5024571.*
- Шафы-купэ, прыхожыя, спальні, дзіцячыя пакоі. ІП Купрэйчык А. П. УНП 690685907. Т. (8-029) 5085160, (8-044) 7899734.*
- Электрык да вашых паслуг. ІП Ганецкі С.Р. УНП 691503598. Т. (8-029) 8543788, (8-029) 9780431.*

# РОЗНАЕ

## ПРАДАЕЦЦА

### Сельгас-, будаўнічая тэхніка, абсталяванне

- Бульбасаджалка да міні-трактара МТЗ. Маладзечна. Т. (8-044) 7192064.
- Прычэп да матаблока. Т. (8-029) 9375945.*
- Трактар самаробны.Т. МТС (8-029) 7546969.

### Камп'ютары, TV, сродкі сувязі

- **АБАНЕНЦКІЯ КАРТЫ "ТРЫКАЛОР" – СКІДКІ! АКЦЫІ! АНТЭНЫ СПАДАРОЖНІКАВЫЯ – ВЯЛІКІ ВЫБАР, НІЗКІЯ ЦЭНЫ**. ІП Бойка Т.Л. УНП 691290609. Т. (8-044) 7170634, (8-033) 3352045.*
- **АНТЭНЫ СПАДАРОЖНІКАВЫЯ ТРЫКАЛОР, НТВ+, ЗАМЕНА СТАРЫХ ПРЫЁМНІКАЎ НА НОВЫЯ.** ГПУП "Ліцэраль". УНП 690371107. Т. (8-0176) 738353, (8-029) 3900408, (8-029) 7728320. *

### Мэбля

- Кухня б/у ў выдатным стане. Т. (8-0176) 549416, МТС (8-029) 5639636.

### Жывёла, птушка, пчолы

- Карова. Т. Вэлком (8-029) 1470839.*

### Іншае

- Прывязу на дом казінае малако ў Маладзечне. Т. (8-044) 4567627.

## КУПЛЮ

### Сельгас-, будаўнічую тэхніку, абсталяванне

- Матаблок МТЗ, аўтапрычэп, нядорага, матацыкл Мінск. Т. (8-029) 6299208.*
- Глебафрэзу для МТЗ-80. Т. (8-029) 2725536.

### Бытавую тэхніку

- Няспраўныя плазменныя і LCD тэлевізары. Т. (8-029) 5634740.*

### Антыкварыят

- **АНТЫКВАРЫЯТ ДОРАГА! БЕЗ ПАСРЭДНІКАЎ. ВЫЕЗД!** Т. МТС (8-029) 7764214.*
- **АНТЫКВАРЫЯТ, ФОТААПАРАТЫ, ГАДЗІННІКІ, ГРАМАФОНЫ, АБРАЗЫ, МЭБЛЮ, ФАРФОР І ІНШЫЯ СТАРАЖЫТНЫЯ РЭЧЫ.** Т. (8-0176) 542987, (8-029) 6564854.*
- Манеты да 1917 г. Выезд па ўсім рэгіёне. Т. (8-029) 6564123.*

### Іншае

- 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. "Беларуская Энцыклапедыя" імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*
- **ІНГАЛЯТАР ВЫТВОРЧАСЦІ ВА "ЭЛЕКТРАМОДУЛЬ", НЕ ЎЖЫВАНЫ. Т. (8-029) 6550799.***
- Кнігу "Памяць", розныя раёны. Т. (8-044) 7982430.*

# ПРАЦА

## ШУКАЮ РАБОТУ

- Досвед працы: разводка сантэхнікі, разводка электрыкі, сцяжка, столі з ГКЛ любой складанасці, шпаклёўка, афарбоўка, укладка пліткі, ламінату, клеенне шпалер. Т. (8-029) 1391932.*
- Рэканструкцыя сельскіх дамоў, аддзелка. Т. Вэлком (8-029) 3517145.



## Прыём дробных аб'яў

| | |
|---|---|
| **Маладзечна** | Вялікі Гасцінец, 68а. Тэл. **753841, 769667.** |
| **Астравец** | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі 1. Тэл. **21140.** |
| **Ашмяны** | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. **45211.** |
| **Валожын** | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. **55542, 55237.** |
| **Вілейка** | вул. Партызанская, 44, магазін «Парус». Тэл. **20083.** |
| **Вілейка** | вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. **55233, 55539.** |
| **Мядзел** | вул. 17 Верасня, 2, пошта. Тэл. **55266, 55431.** |
| **Смаргонь** | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. **33077.** |
| **Чысць** | вул. Зялёная, 4, магазін «Канцкласік». Тэл. **799172.** |

* *Аб'явы, адзначаныя зорачкай, змешчаны ў Інтэрнэце на сайце rh.by*

НАМ ПІШУЦЬ

# Пра міліцыянера і дзяўчынку ў магазіне

Мая вёска, дзе я нарадзілася, дзе прайшлі маё дзяцінства, юнацтва, была не зусім малая. У ёй былі школа, бібліятэка, клуб, магазін. І ўсюды працавалі дзяўчаты, жанчыны. А вось з мужчын было двое – адзін ветэрынар, а другі – міліцыянер, звалі яго дзядзька Мікола.

Колькі жыла, столькі памятала яго ў міліцэйскай форме. Дзядзька ён быў памяркоўны, не памятаю, каб каго штрафаваў ці пасадзіў, хаця п'яных у нас было немала.

Мне здавалася, што насіў ён форму адну і тую ж. Мужыкі, хутчэй за ўсё п'яніцы, далі яму мянушку Ваявода. А прычапілася яна да яго пасля аднаго выпадку.

Было так. Ехаў аднаго разу Ваявода на сваім дрындулеце па зімовай дарозе, мароз градусаў мо з 20. Бачыць, ідзе паціху конь кірункам у вёску, вязе пустыя сані. Кінуў тады Мікола дрындулет, спыніў кабылку, пазнаў, што на ёй ездзіў вясковы п'яніца, развярнуў ды паехаў туды, адкуль ішла жывёліна. А тут і гаспадар знайшоўся – ляжаў на снезе, адна нага босая.

Ускінуў п'янага чалавека на сані, праехаў, знайшоў абутак і даставіў гаспадара ажно ў хату, выратаваў яго ад смерці. Але, як кажуць, навальніца ў лес не ходзіць. Дачуўся п'яны чалавек пра свой учарашні выпадак, кажуць, моцна перажываў, кляўся жонцы, што больш гарэлкі ані-ні, уладкаваўся на работу вазіць хлеб на кабылцы Мілцы з пякарні (па суседстве вёска) у наш магазін.

Ну, і праўда, ці то дождж, ці снег, а яны былі роўна ў 11 гадзін раніцы каля магазіна. Тут ужо абавязкова куча народу, усе чакалі хлеб. Вазіў чалавек хлеб у драўлянай скрыні, якая была абабітая звонку белай бляхай. Вось, напэўна, у гэты момант і з'явілася ў нашага дзядзькі Колі мянушка Ваявода. З той пары ніхто не клікаў дзядзьку Колю па імені, а калі хто скажа Ваявода, то ўсе ведалі, што гэта наш участковы.

Ну дык вось 11 гадзін, чарга выстраілася, кожны пільнаваўся свайго суседа, усе ж аднавяскоўцы. Але такая была завядзёнка: хочаш купіць хлеб – стань у чаргу і цярпліва чакай. Хлеб разгружалі хутка, знаходзіліся добраахвотнікі дапамагчы, затое ім прадавалі першым.

Чарга ішла спакойна, ціха, толькі чуваць было, як падбівае рахунак магазіншчыца, як стукаюць костачкі на лічыльніках. Раптам у краму ўлятае дзяўчо. У адной ручцы яна трымае сетку-авоську, у другой – паперку, а ў кулачку – грошы. Яна стрымгалоў падляцела да магазіншчыцы, паклала на прылавак паперку і грошы і, моцна шапяляючы, залапатала:

– Во гэта ўсё, сто я павінна купіць, ясцэ хлеб і канселву.

Тая калі глянула на спіс, сказала:

– Тут жа многа, як ты данясеш?

– Ніцога, я дузая.

– Не магла мама прыйсці?

– Мама не магла плыйсці, яна любіць лаботу.

– Ну і што ж яна такое робіць, – не ўнімалася загадчыца магазіна.

– Яна лобіць галэлку.

А ў той час у нас было вельмі цяжка з гарэлкай. Налятаі з раёна, шукалі, штрафавалі, саджалі...

Чарга ўміг звярнула ўвагу на Ваяводу. А ён неяк разгубіўся спачатку, але падышоў да малой, пагладзіў яе па галоўцы, спытаўся:

– А яе цябе завуць?

– Малына.

– А дзе ты жывеш?

– А я паказу, во глядзі, дзе вялікая бялоза, а там сіняя лаўка.

– А што, бацька п'е гарэлку?

– П'е бывае, але мама яму не дае.

– А навошта тады вам гарэлка?

– Насто, насто, а мы заўтла выкупілі ў ладзіцельскім доме майго блаціка, а мама сказала: "Ну як цяпел без галэлкі?

Дыялог скончыўся. Малая выйшла з магазіна, закінула авоську праз плячо на спіну і пашыбавала дахаты. Чарга застыла ў чаканні. Ваявода выйшаў за малой, спыніўся, зняў шапку, пачухаў патыліцу, надзеў шапку, развярнуўся на месцы і пайшоў у супрацьлеглы бок.

**Галіна БУРКЕВІЧ, Ілья.**



Фота cracktwo.com.

Дзяўчынцы трэба было зрабіць пакупкі ў магазіне, каб сям'я сустрэла тых, хто прыйдзе ў адведкі. Фота чаргі ў магазіне ілюстрацыйнае.

ПЫТАЙЦЕСЯ – АДКАЗВАЕМ

## У парку збіраюцца запусціць новыя атракцыёны

МАЛАДЗЕЧНА

**У адказ на пытанне чытача "РГ" начальнік парку адказвае пра планы па набыцці атракцыёнаў.**

Чытач "РГ" напісаў у рэдакцыю ліст: "Пасля "Дажынак", якія ўпрыгожылі горад сонца, прайшло не так і шмат часу. Але цяпер горад пакрысе пачынае ператварацца ў горад банкаў і гандлёвых цэнтраў.

А ў гарадскім парку вельмі мала механічных атракцыёнаў. Горад вялікі, дзяцей многа, а ў парку зусім мала забаў. Даводзіцца вазіць дзяцей на атракцыёны ў Мінск. Я як жыхар хачу спытацца, што плануецца ў гэтым накірунку. Цяжкія часы бываюць заўсёды, але і людзі хочуць жыць. Міхась."

На пытанне Міхася адказвае начальнік маладзечанскага парку культуры і адпачынку імя Перамогі **Аляксандр Фалей**:

– Афіцыйна пра сваю навінку мы паведамім у дзень адкрыцця новага сезона, 1 мая. Пакуль трымаем назву атракцыёна ў таямніцы. Але ён дакладна распачне працу, мы яго ўжо набылі. Пасля лютага будзем разглядаць, што набыць яшчэ. Варта ўлічваць, што атракцыёны мы набываем за ўласныя сродкі "Камунальніка". У сакавіку будзем больш дакладна ведаць пра свае планы на новы сезон.

**Аддзел інфармацыі.**

# Ад Беларусі да Аўстраліі, ад Расіі да Вялікабрытаніі

## Грамадзяне чатырох краін працавалі над кнігай пра бой за Вілейку

ВІЛЕЙКА

**Сёлета ў маскоўскім выдавецтве "Веча" выйшаў зборнік "На лініі агню. Відавочцы аб баях за Вілейку ў верасні 1915 года". Ён прысвечаны падзеям, што адбываліся на Вілейшчыне 100 гадоў таму.**

Зборнік стаў вынікам сумеснай працы навуковага супрацоўніка Вілейскага краязнаўчага музея **Андрэя Каркоткі** і кандыдата гістарычных навук **Міхаіла Расійскага** з Расіі.

– Ідэя падобнай кнігі ўзнікла даўно, – прыгадвае Андрэй Каркотка. – Хацелася напісаць працу, якая прысвечаная бою за Вілейку, і тым самым ушанаваць памяць герояў, якія ваявалі тут.

### Кніга стала міжнародным праектам

Калі пачаў збіраць інфармацыю, Андрэю былі вядомыя дзве крыніцы – нарыс генерала ад інфантэрыі **Дзмітрыя Баланіна** "Вілейка. Бой 10-га верасня 1915 года" і ўспаміны святара царквы з Нарочы **Паўла Сасноўскага**.

Паваротным момантам у працы над кнігай стала знаёмства з Міхаілам Расійскім.

І Андрэй, і Міхаіл напісалі артыкулы ў ваенна-гістарычны часопіс, які выдаецца ў Іркуцку. У часопісе віляйчанін заўважыў артыкул, прысвечаны дзённікам доктара **Васілія Краўкова**, начальніка санітарнага аддзела штаба 10-й арміі. Напісаў аўтару, Міхаілу Расійскаму. Той запытаў, ці цікава будзе гараджанам даведацца пра ўспаміны Краўкова.

Завязалася перапіска, а ў выніку з'явілася ідэя ствараць асобную кнігу. Урэшце Міхаіл Расійскі стаў не толькі сааўтарам, а і фундатарам кнігі.

Яшчэ неяк Андрэй у інтэрнэце ўбачыў артыкул, што ў Аўстраліі жыве **Вольга Проніна**, чый бацька **Канстанцін Клуге** ваяваў тут. Паручніка 304-га пяхотнага Ноўгарад-Северскага палка **Канстанціна Клуге** ўзнагародзілі ордэнам Святога Георгія чацвертай ступені за баі на Вілейшчыне.

Доўга шукаў вілейскі гісторык кантакты жанчыны. І вось на з'ездзе расійскіх суайчыннікаў у Маскве ў кастрычніку 2014 года пазнаёміўся з жанчынай, якая ведае Вольгу. Яна падзялілася кантактамі Вольгі, якая даслала копіі ўспамінаў бацькі.

У будучай кнізе ўжо былі сабраныя ўспаміны людзей з розных слаёў грамадства: баявога генерала, афіцэра, святара, ваеннага доктара. Але аўтары падумалі, што ўсё ж кніга выходзіць аднабаковая: хацелася б пазнаёміцца з тым, што пісалі пра гэтыя падзеі немцы. Дапамог фатограф і даследчык гісторыі Першай сусветнай **Уладзімір Багданаў**. Ён прапанаваў копіі палкавых гісторый, дзе ёсць успаміны пра баі на Вілейшчыне. Гэта вытрымкі з выданняў 1930-х гадоў, у якіх выкарыстаныя дзённікі і ўспаміны афіцэраў Германскай імперскай арміі. Яны ўпершыню друкуюцца на рускай мове.

– Цікава, што ва ўспамінах германцы паважліва адносяцца да рускіх салдат – з бояззю, – кажа Андрэй. – Прыгадваецца, якія жах выклікала кавалерыйская атака казакоў ля Касуты.

**– А з усіх успамінаў у кнізе, на ваш погляд, якія найбольш цікавыя?**

– Лічу, што ўсе цікавыя па-свойму. У кожным можна знайсці цікавыя факты – многія чытачы кнігі дзяліліся, што адкрылі для сябе шмат новага.

У выніку ў стварэнні кнігі прынялі ўдзел грамадзяне чатырох краін: Беларусі, Расіі, Аўстраліі і Вялікабрытаніі (**Франк Плежак** з Манчэстара дасылаў ілюстрацыі з перыёдыкі таго часу).

### Даход – на добраўпарадкаванне воінскіх пахаванняў Першай сусветнай

У кнізе багата фатаграфій і картаў часоў Першай сусветнай вайны. Таксама можна знайсці звесткі аб вайсковых часцях і злучэннях, якія ўдзельнічалі ў вызваленні Вілейкі, прозвішчы афіцэраў, узнагароджаных ордэнам Св. Георгія або Георгіеўскай зброяй. Надрукаваны спіс загінулых салдат і афіцэраў 27 армейскага корпуса.

Экзэмпляры кнігі перадалі ў бібліятэкі Вілейкі. Частка тыражу прадаецца – набыць яе можна ў мемарыяльным комплексе "Заброддзе". Даход ад рэалізацыі зборніка накіруюць на добраўпарадкаванне воінскіх пахаванняў Першай сусветнай вайны на Вілейшчыне.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**



Вілейскі касцёл, пашкоджаны артылерыяй, верасень 1915 года.

Фота з кнігі "На лініі агню. Відавочцы аб баях за Вілейку ў верасні 1915 года".

**"21 жніўня. Горад у мірны час меў каля трох тысяч жыхароў. Па прыродных умовах – выдатнае месца для папраўлення нервоварасстроеных і разумова-ператомленых. Малітоўная цішыня: зрэдку пракрычаць пеўнікі, прабрэшуць сабакі ці прамыкаюць каровы ды днём пачуюцца званочкі рамізнікаў; зусім ужо нейкім звышнатуральным феноменам часам праімчыць акаянны аўтамабіль, які прымушае ўсіх жыхароў высыпаць з дамоў, каб палюбавацца такім дзівам…"**

З дзённіка Васілія Краўкова.

**"13 жніўня. Вялікі рух цягнікоў з бежанцамі. Вагоны набіваюцца звыш усялякіх нормаў, людзі садзяцца на дахі вагонаў. Каля 11 дня прыбылі ў Вілейку. Са сваім "Дантэ" Сяргеем тут адчулі дыханне глыбіні Расіі з векавой цішынёй. Газеты тут – рэдкасць, даводзецца адчуваць у іх галаданне. Установы і прыватныя асобы адсюль пакуль не выселіліся, а таму для нас няма месца. Давядзецца заначаваць у вагоне. Здзейснілі з "Дантэ" праменад па горадзе; не адчуваецца тут зусім дыханне вайны: ні аўтамабіляў, ні шалёнай язды, ні іншых яе анёраў; карціна Сарочынскага кірмашу… З прыходам войскаў адразу падняліся цэны на жыццёвыя прадукты".**

З дзённіка Васілія Краўкова.

# Вам будзе свяціць шчаслівая зорка

**Якія б праекты вы ні задумвалі, якія б планы ні складалі, усё будзе рэалізоўвацца пры адной умове – сумленнасці. Толькі маючы пачуццё маральнай адказнасці за свае паводзіны, учынкі перад навакольнымі людзьмі, грамадствам, можна разлічваць на поспех.**



### Авен

2016 год дае вам шыкоўны шанс змяніцца ў лепшы бок. Вы любіце ва ўсім верхаводзіць, даказваць сваю перавагу. Але ад гэтага эмацыйныя спады, нават дэпрэсія. Пастарайцеся не раздражняцца на навакольных людзей. Стрымлівайце негатыў і не накоплівайце крыўды. Калі з блізкімі ў вас адбудзецца разлад, то лепей знайсці кампраміс. Хаця з некаторымі асобамі варта разарваць адносіны і разысціся ў розныя бакі. “Адпусціце” мінулае, каб з аптымізмам рухацца наперад. Адзінокім трэба зрабіць рашучыя крокі. Узяты ў гэтым годзе шлюб будзе шчаслівы. Год спрыяльны ў фінансавым плане і ў адносінах кар'еры. Але не бярыце крэдыты і не пазычайце грошы. Плануйце работу і адпачынак, тады сіл, жадання і энергіі хопіць на ўсё. А яшчэ: кардынальна мяняйце імідж і менш аглядвайцеся на мінулае жыццё.



### Цялец

Клопатаў у вас будзе шмат, і практычна ўсе яны прынясуць станоўчы вынік. Вы ўжо калі ўпрагаецеся ў работу, то і ўзнагарода не прымусіць сябе чакаць – і не важна, на якім полі дзейнічаць. Толькі знаходзьце час на паўнацэнны адпачынак, бо толькі тады будзеце мець моцнае здароўе і цудоўны настрой. У гэтым годзе вам дазволена ўсё – мяняць работу, кватэру, жаніцца і разводзіцца, заводзіць дзяцей – практычна ўсе пачынанні будуць мець добры вынік. Парада для адзінокіх: не заводзьце раман з тымі, з кім не плануеце сваю будучыню. Прытрымлівайце свае пачуцці для таго чалавека, якога шчыра пакахаеце. У фінансавым плане зоркі раяць не рызыкаваць і “не смеціць” грашмі. Вам варта праявіць сябе ў духоўнай сферы, ды і самім вам хочацца паказаць сябе з маральнага боку. І не бойцеся адказваць на каверзныя пытанні, якія паставіць перад вамі жыццё.



### Блізняты

Новы год запатрабуе ад вас хуткага прыняцця рашэння. Вогненная Малпа падвергне сумненню вечнае ваша ваганне і будзе ўважліва назіраць, як вы, такія няўпэўненыя, спраўляецеся з тым, што прадвызначана лёсам. Выдатны час для творчасці і самарэалізацыі, вам будзе дадзена шмат сітуацый, калі можна праявіць сябе і знайсці сваю дарогу. Год адкрывае бязмежныя магчымасці росту, але, галоўнае, разгледзець іх. Будзе дастаткова многа складаных дзён, калі вас можа захліснуць дэпрэсія. Але ў тых, хто ўмее ўсяго сябе цалкам аддаць любімай справе, дэпрэсіі не бывае. Вы лёгка адносіцеся да матэрыяльных даброт і спакойна расстаяцеся з грашмі. А ў гэты год грошы будуць проста плысці вам у рукі. Адказнасць за здароўе ляжыць на вас саміх. Не трэба раскісаць, калі адчуеце стомленасць, проста адпачніце, і будзьце ўважлівыя, каб не запусціць хваробу.



### Рак

2016 год прымусіць вас адмовіцца ад звычкі вечна адступаць назад. Наадварот, усе падзеі года будуць падштурхоўваць вас, такіх асцярожных, дзейнічаць. Настойлівых чакае поспех ва ўсім. У рабоце знешне ўсё будзе выглядаць даволі стабільна і спакойна, а ў плане фінансаў прыйдзецца папацець. Але ў другой палове года зоркі прадракаюць выдатнае матэрыяльнае становішча. Асабліва, калі вы не страціце такія якасці, як праўдалюбства, сумленнасць, практычнасць. Спрыяльны час для змены месца жыхарства, для пакупкі дома. Прысвяціце год свайму аздараўленню, гэта будзе не лішнім. Зоркі раяць звярнуць увагу на страўнік і стрававальную сістэму, правільна харчавацца. Нават на рабоце старайцеся на 10-15 хвілін цалкам адключацца і даваць сабе невялікі адпачынак. А на любоўным небасхіле Вогненная Малпа не дазволіць з'явіцца ніводнай аблачынцы, ніводнай хмарцы.



### Леў

2016 год для вас спрыяльны ва ўсіх адносінах, а для некаторых ён стане проста цудоўным. Адзінае, што вам трэба будзе зрабіць, дык гэта стаць больш шчырымі, спагадлівымі ў адносінах да тых, хто вас акружае. Год абяцае быць удачным у плане фінансаў, асабліва пад канец. Калі першая палова года абяцае зацішша, то другое паўгоддзе можа выдацца вельмі бурным. Гэта час, калі можна смела мяняць работу, рабіць кар'еру і складаць перспектыўныя планы. У другой палове года з'явіцца стойкае жаданне перавярнуць увесь свой свет. Трэба да гэтага падыходзіць узважана, бо тут галоўнае, не наламаць дроў. Але памятайце, што трэба даражыць тым, што маеце. Яшчэ вы будзеце заклапочаны сабой, вам захочацца памяняць усё – прычоску, гардэроб, знешні выгляд. Лепшы сродак ад хвароб: камфортны адпачынак і цёплая абстаноўка ў сям'і.



### Дзева

Для вас 2016 год знакавы, калі адбываецца пераацэнка каштоўнасцяў. Для тых, хто справіцца з гэтай задачай, чакае ўзнагарода, напрыклад, у выглядзе новай пасады ці папаўнення ў сям'і. Два гады запар у вас адбываліся кардынальныя перамены. Год 2016 павінны паставіць кропку ў гэтым працэсе. Малпа прымусіць самакрытычна паглядзець на сябе, пераацаніць каштоўнасці, якія здаваліся непарушнымі, па-новаму паглядзець на сяброў, калег, навакольны свет. Калі вы да гэтага аднесяцеся несур'ёзна, то ў будучыні можа з'явіцца шмат праблем. Сямейным трэба быць асцярожнымі, каб не справакаваць сур'ёзных канфліктаў. Зоркі раяць адгарадзіць сябе ад зносін з людзьмі, якія нагадваюць вам пра мінулае, каб зноў і зноў не перажываць не самыя прыемныя падзеі ў жыцці. Нябёсы падораць падтрымку вашых пачуццяў і надзею на тое, што ўсё будзе добра.



### Шалі

Для вас гэты год гарманічны і спакойны. Ніводнага воблачка на небасхіле, тым больш ніякіх хмар. Год пройдзе настолькі роўна, спакойна і стабільна, што гэта знешняя цішыня прымусіць вас задумацца – а ці ўсё так добра? За кожным, нават дробным канфліктам вы будзеце бачыць двайное дно, любое прыняцце рашэнняў будзе давацца цяжка. Усім вам трэба пераадолець свае страхі і паглядзець на гэты свет прасцей. Выдатны год для куплі нерухомасці і ўкладання інвестыцый у доўгатэрміновыя праекты. Але будзьце пільныя. Цудоўны год для блізкіх ці далёкіх падарожжаў – можна ўжо планаваць паездкі, атрымаеце шмат станоўчых уражанняў. Вы павінны думаць пазітыўна, каб не прыцягваць да сябе “чорную” паласу, бо нават самыя сур'ёзныя хваробы паддаюцца лячэнню. Памятайце пра гэта і ніколі не панікуйце. Радуйцеся жыццю, і жыццё будзе радаваць вас.



### Скарпіён

Вы ўвесь год праведзяце ў пошуках унутранай ідыліі. Вам захочацца перагледзець усе каштоўнасці і занава расставіць прыярытэты. Можа здавацца, што ўсе, пачынаючы ад начальніка на рабоце і заканчваючы членамі сям'і, прад'яўляюць да вас завышаныя патрабаванні. Знайдзіце з гэтага выгаду – падыміцеся на больш высокую прыступку свайго развіцця. Калі вы задумаеце частку працы перакласці на некага іншага – вам гарантаваны правал. Калі ж вырашыце ўзяць на сябе павышаныя абавязацельствы – удача ўзнагародзіць вас шчодра. І тады год прынясе шмат прыемных момантаў. Усё будзе адбывацца нечакана, і ваш унутраны свет ад добрых паваротаў лёсу напоўніцца толькі станоўчай энергетыкай, вашы мары рэзка пачнуць рэалізоўвацца і станавіцца явай. І клапаціцеся пра здароўе, бо акрамя вас ніхто гэтага не зробіць.



### Стралец

2016 год удачны для вялікіх мэт. Год Казы прымусіў вас паднапружыцца, і год Малпы будзе працягваць трымаць вас у жыццёвым тонусе. Тым, хто не кінуў свае напрацоўкі на паўшляху, год шчодра аддзячыць. А тым, хто любіць сячы з-за пляча, трэба прытрымаць свой востры язычок. Часам хітрая Малпа будзе правакаваць вас на шчырыя размовы і высвятленне адносінаў, якія могуць закончыцца буйной сваркай. Таму вам парада – думайце, думайце і яшчэ раз думайце. Поспех у любой справе будзе залежаць ад таго, наколькі глыбока, хутка, дакладна вы зможаце пранікнуць у сутнасць падзей і з'яў, якія перашкаджаюць вам “развярнуцца”. Тыя з вас, хто сочыць за даходамі і расходамі, могуць быць спакойныя, бо ведаюць свае здольнасці і могуць лёгка планаваць грандыёзныя пакупкі. Іншым жа праблем не пазбегнуць. Будзьце дальнабачнымі.



### Казярог

Ветраная і пераменлівая Малпа трохі недалюблівае дысцыплінаванага Казярога, таму вам 2016 год падкіне мноства складаных задач, у якіх адразу будзе некалькі рашэнняў. Выбраць з іх самае правільнае і бяспечнае – ваша задача. Але гэты досвед толькі зробіць вас яшчэ разумнейшым і яшчэ больш моцным. Нягледзячы на складаныя задачы, год абяцае быць шчаслівым. Вы ж той знак, які любіць карабкацца на вяршыню гары і пераадольваць любыя перашкоды, так што вас нічога не спужае. Год унясе і некаторыя карэктывы ў ваша жыццё – менавіта Малпа вам пакажа, што можна паваляцца на канапе, патраціць сваё распланаванае жыццё на зусім легкадумныя вечарынкі, святы. І вам знешне будзеце страшна ад такога бессэнсоўнага марнатраўства жыцця, а ў глыбіні душы будзеце радавацца за падораныя гадзіны бесклапотнасці і весялосці.



### Вадалей

Для вас наступае цудоўная пара для творчасці і натхнення. Гэта той час, калі па сілах будзе рэалізацыя самых дзівацкіх, шалёных ідэй. Ваш знак – гэта знак летуценніка, а Малпа – вынаходлівая асоба. Таму ёсць шанец свае мары ўвасобіць у жыццё. Зоркі раяць узур'ёз падумаць пра доўгатэрміновыя адносіны. Няўжо вам не надакучылі мімалётныя сувязі. Вы павінны аб'ектыўна паглядзець на рэчы і заняцца пошукам другой палавінкі. Ідэальных людзей няма, а каханне заўсёды ў прыярытэце. Калі вы задасцеся мэтай, то ў гэтым годзе возьмеце шлюб. З пункту гледжання ізатэрыкі, 2016 год будзе пераломным для многіх з вас. Хутчэй за ўсё, вы пяройдзеце на новы ўзровень усведамлення гэтага свету. І не ігнаруйце знакі, якія пасылае вам сусвет: яны падкажуць, куды рухацца далей у рабочым плане, ад каго варта трымацца як мага далей і каму давяраць.



### Рыбы

Мінулы год для вас не абышоўся без стрэсаў, а 2016 год прынясе спакой. У вас з'явіцца непераадольнае жаданне штосьці змяніць у сваім жыцці, ці то месца жыхарства, работу, захапленні ці звыклы лад жыцця. Смела скарыстайцеся такім шанцам – год спрыяльны ў плане перамен да лепшага. Увогуле ідэальны час, калі можна ў корані змяніць сваё жыццё. Вашы няўпэўненасць і вечную бегатню Малпа накіруе ў патрэбнае рэчышча. Спрыяльны год і для тых, што вырашыў звязаць сябе вузамі Гіменея. А для тых, хто яшчэ не задумваўся пра сям'ю, чакаюць вельмі сур'ёзныя любоўныя раманы і адносіны. А яшчэ чакаюць прыемныя сюрпрызы, спакуслівыя моманты і незабыўныя знаёмствы з новымі людзьмі. Зоймецеся вы і абагачэннем духоўнага боку жыцця. Не ігнаруйце дробязі і прыглядайцеся да лёсавызначальных знакаў.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**



● СТАРЫ АЛЬБОМ

# Як кравецкая справа дапамагла прайсці вайну

*Заканчэнне. Пачатак у №№51, 52.*

ВІЛЕЙКА

**Спачатку ён працаваў на зямлі, каб карміць сям'ю, партызан і акупантаў. Пасля прызвалі ў войска, але выпадкова не паспеў на цягнік, які вёз у армію.**

Ніхто тым часам не хварэў, арганізм быў мабілізаваны. Хваробы чапляліся, калі полк адводзілі ў тыл на адпачынак і асабовы састаў расслабляўся. У такіх выпадках лазня дапамагала лепш, чым лекі. Затым зноў на перадавую – і ўсё спачатку.

### Гаўбіцай узнялі вежы танкаў на сем метраў

Мне цікава было, за якія праявы гераізму такія артылерысты маглі атрымаць узнагароды. Маглі. Напрыклад, лётчыкі, вяртаючыся з задання, заўважалі на дарозе, у лесе ці перад пераправай праз раку многа нямецкай вайсковай тэхнікі, танкаў, заправўшчыкаў. Адразу па рацыі паведамлялі каардынаты ў штаб арміі. Са штаба на адну з батарэй палка прыязджаў афіцэр у акулярах, капітан, салдаты звалі яго Матэматык, і па карце наводзіў, кожную асобна, гаўбіцы. Таптаўся каля іх даволі доўга, паглядаючы ў нейкі сшытак. Артылерыстам заставалася даслаць снарад, тузануць за шнур. І так некалькі разоў. Які атрымаўся вынік з гэтай аперацыі, не ведалі, чакалі.

**Калі праз тыдзень ці паўтара камандзір вяртаўся са штаба з ордэнам на грудзях і парай медалёў "За баявыя заслугі" ў руцэ, значыць, не прамазалі.**

Медалі атрымлівалі лепшыя з асабовага складу батарэі. Хаця быў адзін выпадак, калі вынік аперацыі ведалі. У нашу лінію абароны ўклініўся батальён нямецкіх танкаў і самаходак. Апынуўся насупраць пазіцый батарэй палка. Прыцэл гаўбіцы не прыстасаваны для бліжняга бою, наводзілі, зняўшы замкі, праз ствол, прамой наводкай. Калі вежы некалькіх нямецкіх танкаў, куляючыся, узляцелі метраў на сем-восем над зямлёй, немцы адразу зразумелі, з кім маюць справу, без развароту падаліся назад, хто ўцалеў. Бацька бачыў гэта на свае вочы, каб хто расказваў, то не паверыў бы. Пазней былі ўзнагароды, у гэтым выпадку ўсе ведалі, за якія справы.



Фота забяспечана Анатолем КАПЦЮГОМ.

Іван Капцюг у час службы ў Ленінградзе. 20 кастрычніка 1945 года.

### Бляшанка тушонкі, тэлефонны кабель – як рабілі парадную форму да Перамогі

Пасля дайшлі да Латвіі, фронт перайменавалі ў Прыбалтыйскі.

Недзе ў пачатку красавіка 1945 года ў разбураным доме невялікага латвійскага мястэчка таварышы па службе знайшлі спраўную швейную машыну "Зінгер". Прынеслі ў полк. Наступным днём бацьку выклікалі да камандзіра дывізіёна. Ён без уступу сказаў: "Для цябе, Ваня, вайна скончылася, перабірайся на камандны пункт, прымай агрэгат". У палку даўно ведалі пра яго здольнасці і часта імі карысталіся, ён пры сабе заўсёды меў клубок нітак і іголку. А тут швейная машынка. Каб не было ніякіх пытанняў, бацьку перакваліфікавалі ў сувязіста-тэлефаніста, жыў і працаваў на камандным пункце, а каля машынкі стаяў палявы тэлефон.

З якой нагоды такое шчасце? Па-першае, кравецкая навука яшчэ і ўдасканаленая ў час вучобы ў артылерыйскай школе.

**Па-другое, той парой англійскі кароль ці каралева зрабілі падарунак баявым афіцэрам Чырвонай Арміі да дня блізкай ужо перамогі – сукно на парадную форму.**

Старшыя афіцэры спраўлялі форму недзе ў атэлье, а камандзірам батарэй, дывізіёнаў і нават камандзіру палка шыў уласны кравец. У бацькі было больш за дзясятак кліентаў, тканіны было ўдосталь, меў мачымасць справіць парадны мундзір і для сябе. Пагоны выразаў з бляшанкі з-пад амерыканскай тушонкі, абцягваў чорнай атласнай тканінай, а па баках чырвоны тэлефонны кабель. Да Дня Перамогі ўсё было падрыхтавана.

### "Кравец не можа быць шпіёнам"

Але не ўсё было так гладка і ціхамірна. Незлюбіў асабіст палка, бацька бачыў, як той сцягнуў у яго камандзіра бутэльку спірту. Пагражаў завесці на яго, "паляка", справу і адправіць па этапу ў Сібір на лесапавал.

Даведаўшыся, камандзір палка параіў асабісту шукаць шпіёнаў у іншым месцы – патрэбны палку кравец не можа быць ворагам. Зноў дапамагла і выратавала кравецкая навука.

У самым канцы вайны артылерыйскі полк, у якім ваяваў бацька, у саставе Прыбалтыйскага фронту прымаў удзел у ліквідацыі Лібаўскага катла. Немцы не складалі зброю да капітуляцыі Германіі, адбіваліся, як толькі маглі, хаця Берлін быў узяты тыдзень таму савецкімі войскамі.

### Салют!

Самы апошні на вайне і надта смешны, на думку бацькі, выпадак адбыўся 9 мая 1945 года пад горадам Лібава (сёння Ліепая ў Латвіі). Хадзілі чуткі пра ўзяцце Берліна, пра заканчэнне вайны. Полк паходнай калонай рухаўся па ляснай дарозе да горада. Калі выехалі на ўскраек лесу, кіламетраў за пяць-шэсць да горада, пачулі моцную страляніну з усіх відаў зброі. Прыпыніліся: вось табе і вайна скончылася.

Доўга не раздумваючы, па франтавой звычцы паставілі першую батарэю на баявую пазіцыю, даслалі снарады і пачалі чакаць. Казалі, што перамога, а тут такое? Праз нейкі час з боку горада паказалася "палутарка", ехала па дарозе ў іх бок. Яе перахапілі, выцягнулі з кабіны маладога лейтэнанта, той быў вясёлы, на падпітку. Лейтэнант разгублена глянуў на напружаных артылерыстаў, супакоіўся і крыкнуў: "Вы што, хлопцы, гэта ж салют, вайна скончылася. Перамога!"

Пасля традыцыйных для пераможцаў трох дзён адпачынку ў Лібаве асабовы састаў палка пасадзілі ў вагоны, гаўбіцы і швейную машыну "Зінгер" пагрузілі на платформы, полк перадыслакавалі ў Ленінград. Размясцілі ў старых, яшчэ царскіх казармах за Фінляндскім вакзалам, побач з паравозам, на якім Ленін вярнуўся ў Расію рабіць рэвалюцыю.

У Ленінградзе бацька праслужыў да лістапада 1945 года. Яму настойліва прапанавалі застацца на звыштэрміновую службу, абяцалі прысвоіць званне старшыны, зразумела, з якой нагоды. Не пагадзіўся. Вельмі хацелася хутчэй апынуцца дома.

Я ў тых казармах быў, мёд не піў, але паглядзеў на апошняе месца службы майго бацькі.

Дзядзька
**Анатоль КАПЦЮГ,**
Вілейка.

● КАЛЯНДАР

1 СТУДЗЕНЯ

**Новы год.**

**270 гадоў** з дня нараджэння Францішка Ксаверыя Міхала Богуша (1746–1820), філосафа, гісторыка, тэолага, пісьменніка. Працаваў у А.Тызенгаўза. У 1777–78 падарожнічаў з ім па Сілезіі, Аўстрыі, Германіі, Францыі, Англіі; уражанні ад паездкі апісаў у "Дзённіку", які надрукаваны ў Варшаве ў 1903, памылкова як твор С.Сташыца.

**80 гадоў** з дня нараджэння Анатоля Кудраўца (1936 - 2014), беларускага пісьменніка, перакладчыка. Скончыў аддзяленне журналістыкі БДУ. На працягу 20 гадоў працаваў галоўным рэдактарам часопіса "Нёман".

2 СТУДЗЕНЯ

**75 гадоў** з дня нараджэння Міхася Зарэмбы (Міхаіла Мікалаевіча) (1941–2002), беларускага празаіка.

**35 гадоў** назад (1981) заснаванае беларускае выдавецтва для дзяцей "Юнацтва".

7 СТУДЗЕНЯ

Каляды праваслаўныя

**115 гадоў** з дня нараджэння Іосіфа Раеўскага (1901 – 1972), рэжысёра, акцёра, педагога, народнага артыста Беларусі, народнага артыста СССР.

**25 гадоў** назад (1991) памёр Кандрат Крапіва (сапр. Атраховіч), драматург, паэт, мовазнавец. Пахаваны на Усходніх могілках у Мінску.

**120 гадоў** з дня нараджэння (1896–1969) Яўхіма Кіпеля, грамадска-палітычнага дзеяча, дзеяча эміграцыі ў Германіі і ЗША. Удзельнік Першай сусветнай вайны. Ад 1918 года ў Чырвонай Арміі. Скончыў БДУ. З 1926 сакратар аддзела прыроды і народнай гаспадаркі Інбелкульта. Са студзеня 1928 аспірант БДУ, але выключаны па ідэалагічных матывах. 28 чэрвеня 1930 года арыштаваны і высланы на 5 гадоў у Вяцкую вобласць. Паўторна арыштаваны ў снежні 1935 і асуджаны на 5 гадоў лагераў. Вызвалены ў снежні 1940. Ад чэрвеня 1942 у Мінску, супрацоўнічаў з нямецкімі акупацыйнымі ўладамі. Працаваў у Інспекцыі беларускіх школ, Беларускай народнай самапомачы. З 1944 кіраўнік навуковага аддзела БЦР. На 2-м Усебеларускім кангрэсе абраны яго старшынёй. З сярэдзіны 1944 у Германіі. Падрыхтаваў да друку кнігу ўспамінаў пра савецкія лагеры "З іхняга раю". З 1950 – у ЗША, з 1951 уваходзіў у Беларускі кангрэсавы камітэт Амерыкі, стварыў Аб'яднанне беларускіх вязняў савецкіх лагераў. Успаміны Яўхіма Кіпеля захоўваюцца ў архіве Беларускага інстытута навукі і мастацтва ў Нью-Ёрку. Рэабілітаваны ў 1988 годзе.

**Марыя БЕРАСНЕВА.**




# Капенгаген – горад, дзе
# а дэпутаты ездзяць на

**Чым жыве ўтульная сталіца Даніі, як тут рыхтаваліся да Калядаў і што аб'ядноўвае беларусаў і датчан – у рэпартажы нашага карэспандэнта.**

Пры пад'ездзе да Капенгагена заўважаеш першую адметнасць – увечары ў дамах свецяцца вялізныя вокны, а на іх – аніякіх занавесак. Хто з датчан адказвае, што такая засталася пратэстанцкая звычка (лютэранства ў краіне – дзяржаўная рэлігія). Маўляў, нам няма чаго хаваць. Таму і офіс у цэнтры горада ўвесь навідавоку, і ў шматкватэрных дамах многія вокны без гардзін. Але падкрэсліваюць: "У нас не прынята ў вокны заглядваць".

## Круглы год на ровары

Капенгаген – адзін з нямногіх гарадоў у свеце, дзе ёсць адмысловыя святлафоры для раварыстаў. Яны тут патрэбныя: бывае, што па роварных дарожках больш рух, чым па дарогах. Штодня на ровары едуць каля паловы жыхароў Капенгагена. Большасць з іх робіць гэта круглы год, нават у дождж і снег.

Роварныя дарожкі ў горадзе паўсюдна: працягласць іх амаль 400 кіламетраў. Едуць на роварах маладыя і пажылыя, апранутыя папростаму і ў футра. І дзяцей з сабой вязуць – адно, а то і двое. Наперадзе ў ровара – кабінка, там прышпіленыя рамянямі сядзяць малыя.

Раварысты ў Капенгагене – "каралі дарог". Бывае, што ходнікі настолькі вузкія, што ледзьве размінешся. А роварная дарожка – шырокая.

Паўсюдна вялізныя стаянкі для ровараў, бываюць і "двухпавярховыя". Ровар можа быць і проста ля стаянкі кінуты. Ля будынка, дзе парламент Даніі, таксама стаянка – большасць дэпутатаў дабіраецца на працу на ровары.

Ездзіць на ровары – гэта здорава, экалагічна, і зручна. У Даніі вялікія падаткі пры пакупцы машыны – да кошту машыны прыплюсуйце яшчэ амаль два яе кошты. Так што для датчан аўтамабіль – гэта не проста сродак перамяшчэння, а дарагі сродак перамяшчэння.

Яшчэ ранкам і пасля працы ў горадзе шмат бегуноў. Бягуць і па ходніках – па адным і цэлымі кампаніямі.

## Усё для турыстаў

У Капенгагене – безліч магчымасці для турыстаў. Хочаш – пакатаюць за прыстойную суму па каналах, хочаш – зусім бясплатна наладзяць пешую экскурсію.

Жадаеш па турысцкіх месцах прайсціся – то кіруйся да помніка Русалачцы, набярэжнай Нюхавн з рознакаляровымі домікамі, ці да каралеўскага палаца Амаліенборг, дзе натоўп турыстаў імкнецца пабачыць, як мяняецца каравул гвардзейцаў у старадаўніх строях і мядзведжых шапках. Казкамі Андэрсэна захапляешся – раскажуць і пакажуць, дзе жыў, у якую кандытарскую заходжваў. А вось Круглая вежа, з якой параўноўваюцца вочы сабакі ў казцы "Крэсіва".

Хочаш пагрузіцца ў гісторыю і мастацтва – знаёмся з музеямі. Яны тут шыкоўныя, некаторыя, як Нацыянальны музей, бясплатныя. З дзецьмі прыехалі – калі ласка, у парк Цівалі. Ён яшчэ ў 19 стагоддзі з'явіўся, калі пра ніякія "дыснэйлэнды" і не чулі. Хочаш з культурай хіпі пазнаёміцца – у вольны горад Хрысціянію дарога.

Па-добраму зайздросціш датчанам: колькі ў іх традыцый і даўніны захавалася. У замку Розенборг пабачыш ад салдацікаў, з якімі будучы кароль гуляў, да карон. Тут жа ў склепах у бочках віно вытрымліваецца стагоддзямі – некаторае, аж 400 год. Па традыцыі дацкая каралева Маргрэтэ II частуе гэтым віном сваіх гасцей, але толькі раз на год, 1 студзеня.

Ды проста пагуляй па вулачках – паўсюдна гісторыя. Тут дом 18 стагоддзя, тут – 19. Побач – вялізная крама антыкварыяту, дзе толькі сталовыя прыборы. А ў іншай, праўда, не такой вялікай, адныя антыкварныя дзіцячыя цацкі.

## Зручны для жыцця горад

Усё неяк прадумана ў Капенгагене для зручнасці людзей. Прыкладам, на брукаваных ходніках пракладзеныя ўздоўж дзве роўныя паласы – каб каляскі з дзецьмі роўненька каціліся.

Для раварыстаў ёсць адмысловыя смеццевы. Яны з нахілам, каб смецце зручна было выкідваць, не спыняючыся.

Паркаў тут шмат – ды так яны размешчаныя, каб у любой частцы горада жыхару да парку было блізка.

У Капенгагене адна з самых вялікіх пешаходных вуліц свету – Строгет. Дакладней, гэта пешаходная зона, што складаецца з пяці вуліц. Зіхацяць вітрыны шыкоўных бутыкоў, тут жа просяць міласціну бежанцы. Ля старой царквы – вулічныя музыканты іграюць, далей графіцісты свае ёлкі размалёўваюць. І ніхто нікому не перашкаджае. Нават зазывалы з кавярні сціпленька стаяць з рэкламнымі шчытамі на спінах.

## Жыць экалагічна

Адзін з беларускіх калег уважліва разглядаў чэк з супермаркета. Ну, дакладна гэтага не купляў, а ў чэку ёсць. Аказалася, узялі грошы за пластыкавую бутэльку. У Даніі ў крамах не толькі за шкляныя бутэлькі, а і за пластыкавыя трэба плаціць. Потым можна здаць бутэлькі: у крамах аўтаматы стаяць. Так заахвочваюць не выкідаць у смецце пластык.

Датчане шмат увагі ўдзяляюць экалогіі: як у маштабах краіны, так і сям'і. У крамах багата прадуктаў з прыстаўкай "эка" – арганічная ежа.

Аглядаючы Капенгаген з вышыні, удалечыні заўважаеш ветракі. У Даніі іх шмат, і спыняцца не думаюць. Хочуць, каб у краіне да 2050 года ўся энергія была з аднаўленых крыніц.

## Датчане – яны, як беларусы

Якія яны датчане, распытваў у людзей, якія даўно пераехалі жыць у Данію з іншых краін.

– Сумленныя і мала карумпаваныя, – кажа жанчына з Польшчы. – Год 50 таму дзверы ў дамах не зачыняліся. Цяпер, праўда, ужо не так: і тыя ж ровары крадуць.

Наша былая зямлячка Наталля адказала проста:

– Яны такія, як беларусы. Такія ж неамбіцыйныя, разважлівыя, памяркоўныя. А яшчэ яны сціплыя. Калі набываюць штосьці дарагое, дом ці машыну, то будуць апраўдацца, гаварыць, што статус абавязвае і гэта добра для вядзення бізнесу.

І яшчэ адну падобную з беларусамі рысу заўважыла:

– Датчане таксама бульбу любяць. У іх гэтак жа безліч рэцэптаў страў з бульбы.

Бульбу ў лупінах у рэстаране могуць прынесці.

## Нацыянальная страва – бутэрброд

Цікава, што ў рангу нацыянальнай стравы ў Даніі бутэрброд. Але гэта не звычайны кавалачак хлеба з маслам і кілбасой.

Дацкі бутэрброд, смёрэброд, – вялізны, з начынкай у некалькі яруcаў. Як жартуюць, нагадвае хутчэй невялікі кавалак дыванка пры дзвярах. Ёсць нават цэлыя рэстараны, дзе падаюць толькі смёрэброд. У меню можа быць сотні відаў.

## Да Калядаў рыхтуюцца з фантазіяй і густам

Ад сярэдзіны лістапада ў Капенгагене адкрываюцца калядныя кірмашы. Тут каруселі, кола агляду, багата шапікаў майстроў. Прапануюць вырабы з воўны і футра, розныя ўпрыгожванні, навагоднія цацкі – асабліва папулярны дамавік Ніcе ў розным выглядзе. А вунь каваль гатовы выкаваць падкову з тваім імем.

Данія – краіна дарагая, і ручная праца цэніцца асабліва. Маленькі фанерны домік у тысяч 300 на нашы грошы пацягне, шкарпэткі з воўны – 250 тысяч.

А колькі прысмакаў на кірмашах: не толькі мясцовыя прапануюць. У адным месцы – канадскія, трохі далей – польскія, а вунь далікатэсы з італьянскай Сіцыліі – мяса і сыры.

Што да цэнаў, то пончык каштуе – 25 тысяч на беларускія, мяккія вафлі і італьянскія бісквіты – тысяч 60, кубачак глінтвейну і падобных напояў – каля 100 тысяч, столькі ж – хот-дог.

Па кірмашах прагульваюцца Санта-Клаусы, частуюць дзяцей цукеркамі. Не толькі дзяцей ён цікавіць: немаладая дама ўсё дапытвала ў Санта-Клауса, ці сапраўдны ён.

Крыху далей ад кірмашу выраашылі адсвяткаваць Каляды па-новаму, і ёлку зрабілі проста з палак.

Як прыгожа ўпрыгожваюць вітрыны крам да свята: столькі фантазіі і густу! Не проста павесяць гірлянду на вокны, а аздобяць вялізнымі каляднымі вянкамі, зробяць ёлкі з кветак і бліскучых навагодніх цацак. А дзе ў вітрыне пасадзяць вялікіх механічных мядзведзяў з музычнымі інструментамі, і тыя раз-пораз пачынаюць іграць.

Нездарма Данія славіцца дызайнам. У крамах – аддзелы дацкіх дызайнераў. Там звычайна не адзенне, а розныя рэчы ў дом: ад лыжак з відэльцамі па шалёных цэнах да мэблі. У якую ўстанову не зойдзеш – мэбля практычна ўся розная. Простая і разам з тым вытанчаная і зручная – у Даніі лічаць, што прыгажосць павінна быць зручнай.



Капенгагенец прыйшоў на Ратушную плошчу пачаставаць галубоў.

**Фота аўтара.**
**Больш фота на сайце rh.by.**



Алесь ВЫСОЦКІ
alvy@tut.by

# жывуць без фіранак на вокнах, працу на ровары



На прагулцы – коні з каралеўскай стайні. Гэтыя коні па святах возяць каралеўскую сям'ю.

*У Даніі Каляды і Новы год адны з самых любімых святаў, якія самі датчане ператвараюць у сапраўдную казку*




Нязменны атрыбут калядных кірмашоў – алені з Санта-Клаусам.



Дамавік Ніcе – самы папулярны сувенір на калядных кірмашах.

# Да таго, як стаць футбалістамі, яны былі каўбоямі, гномамі і катамі ў ботах

МАЛАДЗЕЧНА

**Напярэдадні Новага года футбалісты каманды "ДЮСШ-4 Маладзечна" пагарталі сямейны альбом. Сваімі фотаздымкамі і навагоднімі гісторыямі Юры Бугай, Сяргей Галюк, Ігар Талькоўскі, Сяргей Лавор і Цімафей Ігруша падзяліліся з чытачамі "Рэгіянальнай газеты".**



### Сяргей Галюк: "У садку сваёй Беласнежкі так і не знайшоў"

На гэтым фотаздымку я ў касцюме гноміка, таму што ў дзяцінстве вельмі любіў мультфільм пра Беласнежку і сем гномаў. Сказаў маме, хачу быць гномікам, таму што яны моцныя і добрыя. У садку я ўсім паказваў, які я мужны, адважны. І толькі такі гном можа знайсці сваю Беласнежку.

Аднак у садку яе так і не сустрэў. А што датычыцца Дзеда Мароза, то я яго акурат у 12 ночы чакаў на балконе. Нават не самога Дзеда Мароза, а нейкага дзіва. А калі вяртаўся ў пакой, заўсёды знаходзіў пад ёлкай падарунак






### Юры Бугай: "За Дзеда Мароза гатовы быў біцца з сябрамі"

На ранішніках быў Пятрушкам і Катом у ботах. Чаму былі менавіта гэтыя персанажы, ужо ўспомніць не магу. Галоўнае, што верыў у Дзеда Мароза шчыра і даволі доўга, гатовы быў "біцца аб заклад" са сваімі сябрамі, даказваючы, што ён ёсць.






### Цімафей Ігруша: "На ранішніку хацелася быць футбалістам"

Гэтае фота, дзе я ў касцюме каўбоя, – чамусьці адзінае з ранішніка. Таму не магу ўспомніць, ці давялося пабыць кімсьці яшчэ. Але дакладна памятаю, што заўсёды марыў быць футбалістам. І ў жыцці, і на ранішніку. А ў Дзеда Мароза верыў да гадоў васьмі, пакуль аднойчы тата не "спаліўся". Я ўбачыў, як ён хавае падарунак.






### Ігар Талькоўскі: "Дзеда Мароза чакаў, пакуль не закрываліся вочы"

На фотаздымку я злева – гном з барадой. Цьмяна ўспамінаю, што гэта была навагодняя казка пра Беласнежку. У Дзеда Мароза верыў, як і ўсе дзеці. Бывала, да двух ночы чакаў, пакуль вочы самі не заплюшчваліся. А на раніцу падарунак заўсёды быў пад ёлкай.





### Сяргей Лавор: "Кім толькі я не быў на ранішніках!"

У садку выбару ў мяне не было, усе чатыры навагоднія ранішнікі, ці колькі я там хадзіў у садок, быў зайчыкам. Большая прастора з'явілася ў школе. Тут ужо давялося пабыць і чортам, і кікімарай, усё больш адмоўнымі героямі. Навагоднія ранішнікі – гэта весела, мне падабалася быць на сцэне. Палохаць першакласнікаў страшным грымам кікімараў розных таксама падабалася.






Паласу падрыхтавала Наталля ТУР.



## Камент-эксперт

**Не трымайце ў сабе: напішыце, што думаеце**

Пакідайце каментары пад артыкуламі на інтэрнэт-старонцы Rh.by ці ў суполках газеты ў сацсетках

**Гісторыя аднаго цуда: Адам Мальдзіс шукаў мясцовага кампазітара, а выявіў агульнаеўрапейскага дзяржаўнага дзеяча Міхала Клеафаса Агінскага**

Правялі паказуху і нічога амаль не зрабілі. Чаму, напрыклад, у Залессі нічога не зрабілі? Там капліцы ў жудасным стане. ***Паша.***

**Як забраць рэчы продкаў з нашага рэгіёна, што ваявалі ў арміі Андэрса (Поўны спіс, Галасаванне)**

Прыемна, што засталіся такія людзі, як Віктар Голуб! Дзякуй Вам! Сваіх родных не знайшла, але аднаявскоўцы ў спісе ёсць. ***Аксана.***

**Дзед на роліках, хлопец з 51-м памерам абутку – выберы Асобу года "РГ"**

Кандыдатуры падабраныя вельмі ўдала. Усе заслугоўваюць увагі і павагі. Але, хай не будзе ў крыўду іншым, я аддаю перавагу Дзянісу Канецкаму. Ведаю яго асабіста вельмі блізка. Ведаю яго адданасць краязнаўчай справе. Ён з юнацтва ўвесь свой вольны час прысвячае менавіта гэтай справе. Ён і яго каманда на добраахвотнай аснове вельмі шмат зрабілі, робяць і, упэўнены, будуць рабіць усё магчымае для адраджэння невядомай гісторыі і помнікаў у рэгіёне. А, як вядома, без мінулага нельга разлічваць на будучыню! Дзякуючы толькі такім, як Дзяніс, сёння будуецца будучыня ўсёй Краіны. Лічу, што Канецкі гэту ўзнагароду даўно ўжо заслужыў. Поспехаў вам, сябры, і з надыходзячымі вас Калядамі і Новым годам! ***Алесь Раткевіч.***

**Калі электрыфікуюць участак чыгункі ад Маладзечна да Гудагая і дзяржмяжы**

А калі электрыфікуюць участак чыгункі ад Маладзечна да Вілейкі?! ***Марыя.***

**У свежым нумары "РГ": скейт-парк са сцэнай з'явіцца ў вілейскім парку на месцы танцпляцоўкі**

Перад дажынкамі з сябрамі гаварылі аб гэтым... Я кажу, што плошчу пасыпалі маленькімі камянямі і цяпер ніхто не зможа пакатацца, і тут бах – спецыяльная пляцоўка... Памалу, але робіцца ў Вілейцы нешта... Вельмі прыемна !!! ***Алег.***

**Сярэднестатыстычны беларус за сваё жыццё глядзіць тэлевізар 5,8 года, а чытае 5 месяцаў**

Тое самае пачуццё, калі ты не сярэднестатыстычны беларус... ***Оля.***

**Конкурс ад "РГ": Натхняй сваёй гісторыяй здароўя**

А які менавіта чакае падарунак пераможцу конкурсу ад вашага партнёра? Маша.

Паважаная Маша! Падарунак – масажнае абсталяванне. Удзельнічайце! ***Ад рэдакцыі.***



## СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 2 | | | | 8 | | 1 | 7 | 6 |
| | | 5 | | | | | 8 | |
| | | | | 7 | | | | 3 |
| | | 3 | 7 | 2 | | | 1 | |
| 9 | | | | | | | | 5 |
| | 8 | | | 3 | 9 | 6 | | |
| 8 | | | | 5 | | | | |
| | 5 | | | | | 4 | | |
| 3 | 2 | 4 | | 9 | | | | 8 |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.





Фота Настасі РОЎДЫ.

**Перадсвяточнае прадстаўленне з чытаннем вершыкаў Дзеду Марозу, танцамі з Трусам, спевамі, гульнёй у хованкі са Снегавіком зладзілі 24 снежня ў садку №24.**

## КІНО

# Кінатэатр "Радзіма", Маладзечна

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Прэм'ера! Мультфільм, прыгоды, сямейны **"Іван Царэвіч і Шэры Воўк 3"** (Расія, 2015 без узроставых абмежаванняў)
1 студзеня – у 12:40, 20:00
2 студзеня – у 13:00, 17:00
3 студзеня – у 13:30
4 студзеня – у 16:00
5 студзеня – у 16:30
6 студзеня – у 14:00
Цана білета: 35 000 – 45 000 рублёў

Мультфільм **"Снежная бітва"** (3D, Канада, 2015)
2 студзеня – у 15:00
3 студзеня – у 11:30
5 студзеня – у 14:30
Цана білета: 15 000 рублёў

Камедыя, сямейны **"SOS, Дзед Мароз, ці Усё збудзецца"** (Расія, 2015)
4 студзеня – у 14:00
6 студзеня – у 16:00
Цана білета: 20 000 рублёў

Фэнтэзі, прыгоды, баявік **"Зорныя войны: Абуджэнне сілы"** (3D, ЗША, 2015, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
1 студзеня – у 14:40
2 студзеня – у 19:00
3 студзеня – у 15:30
4, 6 студзеня – у 18:00
Цана білета: 55 000 – 65 000 рублёў

Камедыя **"Самы лепшы дзень"** (Расія, 2015, пасля 16 год)
3, 5 студзеня – у 21:00
Цана білета: 45 000 рублёў

Баявік, трылер, крымінал **"На грабяні хвалі"** (3D, ЗША, Германія, Кітай, 2015)
1 студзеня – у 17:30
1, 2 студзеня – у 22:00
3, 5 студзеня – у 18:30
4, 6 студзеня – у 21:00
Цана білета: 60 000 – 65 000 рублёў

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Анімацыя **"Прыгоды Пятрушкі і яго сяброў"** (Расія, 2015, без узроставых абмежаванняў)
1, 7 студзеня – у 13:30
3 студзеня – у 16:00
5 студзеня – у 15:30
6 студзеня – у 17:00
Цана білета: 12 000 рублёў

Мультфільм, прыгоды, фэнтэзі **"Тэд Джонс і закінуты горад"** (Іспанія, 2012, без узроставых абмежаванняў)
1 студзеня – у 15:00
3 студзеня – у 14:00
5 студзеня – у 17:30
Цана білета: 20 000 рублёў

Анімацыя **"Песня мора"** (Ірландыя, Данія, Францыя, 2014, без узроставых абмежаванняў)
1 студзеня – у 17:00
2 студзеня – у 16:00
3 студзеня – у 17:30
6 студзеня – у 15:00
Цана білета: 12 000 рублёў

Мультфільм, прыгоды **"Сарыла. Закінутая зямля"** (Канада, 2013, без узроставых абмежаванняў)
2 студзеня – у 14:00




4 студзеня – у 15:00
7 студзеня – у 15:30
Цана білета: 15 000 – 20 000 рублёў

Камедыя, фэнтэзі, сямейны **"Зачараваная Эла"** (ЗША, 2004, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
2 студзеня – у 18:00
3, 5 студзеня – у 19:30
4 студзеня – у 17:00
7 студзеня – у 17:30
Цана білета: 35 000 рублёў

Баявік, трылер, драма **"Ганмэн"** (ЗША, Іспанія, 2015, пасля 18 год)
1, 2 студзеня – у 21:00
4, 6 студзеня – у 19:00
5, 7 студзеня – у 21:30
Цана білета: 35 000 рублёў

Камедыя, драма **"Каханне па рэцэпце і без"** (ЗША, Вялікабрытанія, 2013, пасля 16 год)
1 студзеня – у 19:00
3, 4, 6 студзеня – у 21:30
7 студзеня – у 19:30
Цана білета: 35 000 рублёў

Тэлефон: (80176) **77-15-92, 77-06-30.**
**Забраніраваць білет можна праз сеціва на сайце megamag.by.**



# Кінатэатр "Мір", Вілейка

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Анімацыя **"Джасцін і рыцары доблесці"** (Іспанія, без узроставых абмежаванняў)
1 студзеня – у 13:10
2, 3 студзеня – у 15:30
Цана білета: 20 000 рублёў

Анімацыя **"Олі і скарбы піратаў"** (ЗША, без узроставых абмежаванняў)
1 студзеня – у 14:50
2, 3 студзеня – у 12:30
Цана білета: 20 000 рублёў

Анімацыя **"Незвычайнае падарожжа Серафімы"** (Расія, без узроставых абмежаванняў)
1 студзеня – у 16:30
2, 3 студзеня – у 14:00
Цана білета: 12 000 рублёў

Драма **"Апошняя ноч"** (Расія, пасля 16 год)
1, 2 студзеня – у 18:00
3 студзеня – у 20:00
Цана білета: 35 000 рублёў

Камедыя **"Прывід"** (Расія, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
1, 2 студзеня – у 20:00
3 студзеня – у 18:00
Цана білета: 30 000 рублёў

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Анімацыя **"Іван Царэвіч і шэры воўк"** (2D, Расія, без узроставых абмежаванняў)
1, 2 студзеня – у 12:00
3 студзеня – у 13:30
Цана білета: 45 000 рублёў

Фэнтэзі, прыгоды, баявік **"Зорныя войны: Абуджэнне сілы"** (3D, ЗША, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
1 студзеня – у 15:00
2 студзеня – у 16:10
3 студзеня – у 15:00
Цана білета: 55 000 рублёў
1 студзеня – у 21:10
2 студзеня – у 20:40
3 студзеня – у 21:10
Цана білета: 65 000 рублёў

Камедыя **"SOS, Дзед Мароз, ці Усё збудзецца"** (2D, Расія, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
1 студзеня – у 17:30
Цана білета: 25 000 рублёў

Баявік, трылер **"На грабяні хвалі"** (3D, Германія, Кітай, з 16 год)
1 студзеня – у 19:10
2 студзеня – у 18:40
3 студзеня – у 17:30
Цана білета: 55 000 рублёў

Камедыя **"Самы лепшы дзень"** (2D, Расія, пасля 16 год)
2 студзеня – у 14:30
3 студзеня – у 19:30
Цана білета: 45 000 рублёў

Анімацыя **"Снежная бітва"** (3D, Канада, без узроставых абмежаванняў)
3 студзеня – у 12:00
Цана білета: 15 000 рублёў

Тэлефон для даведак: (801771) **5-68-59.**

## ГАРАСКОП
## 1-7 СТУДЗЕНЯ



**Авен.** Успомніце, чым вы ганарыліся, калі вам было 15-20 гадоў і паўтарыце поспех былога. Дакажыце, што ў вас ёсць порах у парахаўніцах. З Новым годам, Калядамі!



**Цялец.** Замрыце і нічога не распачынайце. Уявіце сабе, што вы вада, якая раптам замерзла. Хай так, затое ў вас ёсць час для таго, каб усё абдумаць. Ведайце, бывае, зусім не шкодна прааналізаваць і адпусціць падзеі, што адбыліся з вамі за нейкі перыяд. З Новым годам, з Калядамі!



**Блізняты.** Не "наламайце дроў" пад уплывам настрою ў сур'ёзнай сітуацыі. З Новым годам, з Калядамі!



**Рак.** Да ўсіх спраў вы будзеце падыходзіць з фантазіяй і выдумкай. Можна эксперыментаваць са сваёй знешнасцю, мяняць прычоску, стыль адзення. Шчаслівага Новага года. З Калядамі!



**Леў.** Вы будзеце ўзнагароджаны шостым пачуццём, якое дапаможа знайсці выгаду там, дзе іншыя атрымаюць толькі страты. З Новым годам, з Калядамі!



**Дзева.** Жаданне перакласці дамашнія клопаты на плечы сваякоў могуць абярнуцца сапраўдным скандалам. Шчасця Вам у новым годзе!



**Шалі.** Магчымы крызіс сістэмы каштоўнасцей. Перагледзьце свае ранейшыя прыярытэты. З Новым годам, з Калядамі!

**Скарпіён.** Больш уважліва прыглядзьцеся да навакольных людзей, іх ідэі могуць аказацца своечасовымі і арыгінальнымі. Шчасця Вам!



**Стралец.** Глядзіце на досвед старэйшых сваякоў: менавіта ў студзені становіцца ясна, што людзі з адной сям'і часта сутыкаюцца з аднымі і тымі ж праблемамі, толькі сэнс розны. Шчаслівага Новага года! З Калядамі!



**Казярог.** Вы добра закончылі год, здзейсніце прарыў у справах, і гэты перыяд будзе ключыкам да будучых вынікаў. З Новым годам і Калядамі!



**Вадалей.** Мы часта забываем пра тое, што свет унутры нас такі ж вялікі і разнастайны, як і вакол нас, надаём больш увагі знешнім праявам жыцця, забываючы пра іх унутраную сутнасць. Каб займець гармонію і спакой, вам трэба паглыбіцца ў сябе, каб зразумець свае ўласныя мэты і жаданні. З Новым годам і Калядамі!



**Рыбы.** Вучыцеся быць шчаслівымі і задаволенымі сабой. З Новым годам і Калядамі!

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

ISSN 1991-7155

# Рэгіянальная газета. Rh.by

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

тэлетыдзень

● НАДВОР'Е

## 2 студзеня, субота

| | Чацвер | | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | -6 | | -8 | | -9 | | -12 | |
| | -6 | | -6 | | -9 | | -10 | |
| | 754 | ← 4 | 752 | ← 4 | 752 | ← 5 | 746 | ↗ 2 |
| Вільня | -7 | | -9 | | -12 | | -14 | |
| | -7 | | -7 | | -9 | | -9 | |
| | 764 | ↙ 3 | 761 | ↙ 2 | 763 | ↙ 4 | 755 | ↗ 3 |

| Тэмпература паветра | Воблачнасць ападкі | Усход, захад па Маладзечне |
|---|---|---|
| Ц ск (мм рт. сл.) | Хуткасць ветра м/с | |

Усход 9.33
Захад 16.59
Даўжыня дня 7.26

Усход 1.10
Захад 12.56
Квадра 3




● ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я Ў РЭГІЁНЕ

ВАЛОЖЫН

Мінімальная тэмпература -22,5 °C у 1987 годзе
Максімальная тэмпература +5,2 °C у 2007 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 18 мм у 2004 годзе
Назіранні за 38 год. Паводле meteoinfo.by

## Чытайце праз тыдзень:

- **Пачатак студзеня – самы час задумацца, дзе вы будзеце адпачываць летам. Не думайце, што гэта рана. Зімой туры каштуюць значна танней, запэўнівае маладзечанка Аксана Крыўцова. Яна падзеліцца, як заказвала пуцёўкі і што адкрыла падчас адпачынку ў Грэцыі.**

● СВЯТКАВАННІ

## Як у Вілейцы, Маладзечне і Мядзеле будуць весяліцца ў навагоднюю ноч

ВІЛЕЙКА

У навагоднюю ноч на цэнтральнай плошчы ў 1:30 пачнецца канцэрт "Вілейка сустракае Новы год". У 2:00 у Палацы культуры адбудзецца рэтра-дыскатэка.

МАЛАДЗЕЧНА

У навагоднюю ноч, у 1:00, маладзечанцаў, якія адарвуцца ад стала і прыйдуць на Цэнтральную плошчу, чакае шоу таўстушак і конкурсная праграма "Зазвяздзіся!", падчас якой кожны, хто прыйдзе на плошчу, зможа адчуць сябе зоркай.

Святочны феерверк пачнецца ў 2:00.

Пра гэта расказала загадчыца аддзела культурнай дзейнасці і вольнага часу **Святлана Адамушка**.

МЯДЗЕЛ

У Мядзеле навагодняя праграма пачнецца ў 1:00 на плошчы Шаранговіча і працягнецца тры гадзіны.

У праграме: віншаванні жыхароў горада і арганізацый, дыскатэка ў Доме культуры і пад ёлкай.

**Аддзел інфармацыі.**




Фота забяспечана Васілём ЛЯБЕЦКІМ.

Удзельнікі карнавальнага прабегу.

● МАРАФОННЫ БЕГ

## Маладзечанец Васіль Лябецкі трапіў у тройку пераможцаў на карнавальным прабегу

МАЛАДЗЕЧНА

### Навагодні карнавальны прабег адбыўся ў Мінску ў нядзелю, 27 снежня.

Аматары бегу сабраліся каля Чыжоўскага вадасховішча. На навагодні прабег прыехала 199 чалавек. Многія апранаалі касцюмы. Напрыклад, Штурмавіка з "Зорных войнаў", Шрэка і прынцэсы Фіёны, Айбаліта, Дзеда Мароза, Сняжынкі ў мужчынскім варыянце, Гендальфа з "Уладара пярсцёнкаў", Бэтмана і іншыя.

Удзельнікам прапанавалі прабегчы 12 кіламетраў. Яшчэ каля 70 чалавек беглі адзін кіламетр.

З Маладзечна ў карнавальным прабегу ўдзельнічалі васьмёра чалавек, а трое з іх вярнуліся з медалямі.

– Мы вельмі ўзрадаваліся, што так пашанцавала з надвор'ем. Яно было проста цудоўнае! – распавядае маладзечанец **Васіль Лябецкі**.

Другія месцы занялі маладзечанкі **Галіна Кавалёва** і **Таццяна Івашанка**. Галіна справілася за 56 хвілін і адну секунду ва ўзроставай катэгорыі 40-49 гадоў. Таццяна – за адну гадзіну 14 хвілін і 16 секунд ва ўзроставай катэгорыі 50-59 гадоў.

Васіль Лябецкі выступаў ва ўзроставай катэгорыі 60-69 гадоў і заняў трэцяе месца з часам 51 хвіліна 30 секунд.

– З гэтымі маладымі, якім толькі сёлета 60 споўнілася, цяжка змагацца, – пракаментаваў Васіль свой вынік.

Пасля прабегу ўдзельнікаў частавалі кавай.

Акрамя медалёў і грамат, бегуны атрымалі падарункі. Васіль Лябецкі выйграў спартыўную зімовую шапку.

**Аддзел інфармацыі.**







● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

## Чаго вы чакаеце ад новага года?



**Ксенія Бондар, музычны кіраўнік:**
– Хочацца, каб у жыцці было нешта новае, нечаканае. Хутчэй купіць аўтамабіль. На Новы год хачу адпачыць у спакойнай абстаноўцы. Адчуванне свята да мяне даўно прыйшло – працую музычным кіраўніком, таму ранішнікі бачу амаль штодзень. Прыемна дарыць дзецям казку, веру ў цуд.



**Кацярына Чавялёва, эканаміст:**
– Галоўнае, каб вайны не было, каб блізкія былі здаровыя. А матэрыяльныя рэчы – гэта нажыўное. Ад свята не чакаю нечага незвычайнага. Як і заўсёды, упрыгожылі ёлку, прыбралі ў пакоях, цяпер закупляем прадукты, каб прыгатаваць святочную вячэру.



**Вольга Руткоўская, у дэкрэтным адпачынку:**
– Новы год – гэта свята найперш для дзяцей, таму стараюся зрабіць ім нешта прыемнае, рыхтую сюрпрызы. Сама ад свята не чакаю нечага неверагоднага. Як і звычайна, сям'ёй рыхтуем святочны стол, упрыгожваем кватэру, ставім ёлачку.



**Даніїл Бондар, вучань:**
– Найперш поспехаў у вучобе, большай прагі да ведаў. Каб у сям'і ўсё добра было, каб усё дрэннае засталося ў мінулым годзе.



**Юры Зімніцкі, вартаўнік:**
– Для беларусаў важнейшае свята за Новы год – Каляды. Да яго рыхтуемся больш рупліва. На Новы год упрыгожваем ёлачку, ставім святочны стол. Хацелася б, каб у новым годзе было больш кахання, узаемаразумення, спаўнення мар і жаданняў.



**Вікторыя Балдоўская, інспектар:**
– Для жанчыны галоўнае – здароўе блізкіх, дабрабыт і ўзаемаразуменне ў сям'і. Мне б хацелася, каб на рабоце ўсё атрымлівалася, дзеці добра вучыліся.



**Наталля Коўчур, прадавец-кансультант:**
– Ад новага года кожны чакае свой цуд. Я хачу, каб споўніліся мае жаданні, было больш радасных навін. Нядаўна напісала верш на тэму навагодняга цуда і спаўнення жаданняў. Мяркую, што кожны знойдзе ў ім нешта сваё, чаго доўга чакаў.

**Падрыхтавала Галіна СІНІЦА.**

Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 6000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№1 (1079) 1.01.2016. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня УП "Плутас-Маркет", 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59а.
Ліцэнзія ЛП №02319 ад 30.04.2004 №93.
Зак. 1626. Падпісана ў друк у 9.00 30.12.2015.
Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.

Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68-а.**
Тэлефоны/факс: **(0176) 769667, 747100, 753841** (рэклама).
E-mail: **regionnews@rh.by, reklama@rh.by, http://rh.by**
Разліковы рахунак №3012164030004 у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226, атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета", УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.